

Каранацыя Ягайлы ➔4-5

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Крыж і гарабінка ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3302) Год LXIV Беласток, 25 жніўня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Юбілейныя Спасаўскія запусты

**Юбілейныя XXV «Спасаўскія запусты» з 9 па 11 жніўня пасляхова арганізавалі ў гарадскім амфітэатры, музеі ў ратушы і памяшканні дома культуры ў Бельску-Падляшскім Павятовая ўправа БГКТ у Бельску, Самаўрадавае аб'яднанне «Бельская кааліцыя» і Бельскі дом культуры.**

— У палове дзевяностых гадоў мы, бяльшчане, члены беларускіх арганізацый, рашылі наладзіць сваімі сіламі «Спасаўскія запусты» — вялікую беларускую імпрэзу, якую вельмі добра ўспрынялі жыхары горада і наваколля. Па-рознаму бывала са здабываннем сродкаў. Цяпер у нас многа спонсараў і таму ў час сёлетняй юбілейнай імпрэзы мы пашырылі яе на фільм і мастацтва. Раней таксама бывала, што побач выступаў з беларускімі абрадамі, песнямі і танцамі, мы паказвалі мастацтва, фільмы і арганізавалі канцэрты ў вёсках Бельшчыны. У планах шырэйшы выхад да грамадства, да маладых асоб. У наступным годзе хочам паказаць фільмы Тамары Саланевіч. Мая мара — фестываль кароткіх дакументальных фільмаў пра нацыянальныя і рэлігійныя меншасці, але на рэалізацыю гэтай задумы трэба сабраць больш сродкаў, — сказаў старшыня Павятовай управы БГКТ у Бельску-Падляшскім Васіль Ляшчынскі, радны і член управы Бельскага павета.

Многа бяльшчан і прыезджых сабралася ў гарадскім амфітэатры ў нядзелю, 11 жніўня, напярэдадні «Спасаўкі» — посту, які папярэджвае Успенне Прасвятой Багародзіцы. Адбыліся тады прэзентацыя фальклорнага абраду «Сенакос на Бельскай зямлі», выступы з беларускай музыкай, танцамі і іншыя прапановы. 9 жніўня ў Музеі ў Бельску-Падляшскім адкрылася выстава прац мастакоў з Віцебска «Нашчадкі авангарды», прымеркаваная да творчасці вядомага беларускага жывапісца Казіміра Малевіча. 10 жніўня ў Бельскім доме культуры дэманстраваўся фільм «Крэсавая балада» Тамары Саланевіч, а пасля адбылася дыскусія з удзелам герояў фільма. У ім прэзентуецца, між іншым, музыка ў выкананні бельскага хору «Васілёчкі». Харысты прысутнічалі на гэтай сустрэчы.

Нядзельны канцэрт «Спасаўскіх запустаў» на сцэне амфітэатра адкрыў старшыня Павятовай управы БГКТ у Бельску Васіль Ляшчынскі, а член гэтай управы Аляксандар Божка ўручыў падарункі асобам, якія першымі выступілі на сцэне і займальна запрэзентавалі абрад «Сенакос на Бельскай зямлі». Бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі пахваліў ідэю арганізавання «Спасаўскіх запустаў» і асоб, якія іх ладзілі. За арганізацыю 25 «Спасаўскіх запустаў» уручыў ён Васілю Ляшчынскаму і Аляксандру Божку лісты з падзякай і падарункі. На беларускае мерапрыемства прыбыў надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Чушаў, які адзначыў, што чвэрць веку «Спасаўскія запусты» з'яўляюцца часткай культурнай гісторыі Польшчы і Беларусі. Напомніў таксама, што на бельскае мерапрыемства прыязджаюць калектывы з Рэспублікі Беларусь, што спрыяе завязванню і падтрымліванню сяброўства паміж калектывамі з Беларусі і Беласточчыны. Дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік прывітала ваяводскага раднага Ігара Лукашука з Бельска-Падляшскага, войта Бельскай гміны Раісу Раецкую, старшыню ГП БГКТ Яна Сычэўскага, бельскіх радных і ўсіх сабраных. Доўгі і займальны канцэрт умела вяла і цікава распавядала пра паасобных выканаўцаў Ганна Комінч, журналістка Беларускага Радыё Рацыя, якое трымала патранат над «Спасаўскімі запустамі».





Абрад «Сенакос на Бельскай зямлі»

Выступы на сцэне амфітэатра пачаліся з цікавай прэзентацыі абраду «Сенакос на Бельскай зямлі» ў выкананні хору песні і танца «Васілёчкі» і абрадавай групы Тэатральнага калектыву «Антракт», якія дзейнічаюць пры БДК.

— Я спачатку ад сялян сабрала падрабязныя інфармацыі аб сенакосе, апрацавала сабраны матэрыял і саставіла з яго сцэнарый абраду «Сенакос на Бельскай зямлі», з якім мы выступалі ўжо раней. Пад сённяшні выступ я крыху памяняла і папоўніла сцэнарый. Нам важна было паказаць цяжкую працу на сенажаці, якая ўмілялася песнямі і жартоўнымі размовамі, якіх найбольш было ў час перапынку на абед або вячэру, — удакладніла арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

Пазней «Васілёчкі» займальна выступілі яшчэ з беларускімі народнымі песнямі. Публіку захапіў сваім выступам калектыў беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага, якога мастацкім кіраўніком з'яўляецца Сяргей Лукашук.

— Назву нашаму мерапрыемству запрапанаваў Юрка Асеннік, які ў абрадавым календары знайшоў тэрмін «Спасаўскія запускі». Мы назвалі нашу імпрэзу згодна з правапісам — «Спасаўскія запусты», — успомніў былы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук.

На сцэне амфітэатра сола, а пазней разам са сваімі дзвюма дочкамі, цікава выступіла Лідзія Маліноўская з «Маланкі».

— У сямейным тэрцэце мы выступаем ад трох гадоў і нават дабіваліся поспехаў на фестывалі «Беларуская песня» і аглядзе сямейных груп выканаўцаў. Мы захапіліся маміным спевам і яна нас заахвоціла да супольнага выступу, — сказалі Марта і Магда Маліноўскія.

З заклікам любіць і шанаваць сваю родную мову выступіў Ян Шыманюк з Семяноўкі. З цікавым рэпертуарам і харэаграфічнымі распрацоўкамі выступіў калектыў настаўніц «Світанак» Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку.

— Нашым новым мастацкім кіраўніком з'яўляецца Віта Кацюбайла, з якой мы рыхтаваліся да сённяшняга выступу, — удакладніла настаўніца Альжбета Баравік.

Займальна выступіў таксама мужчынскі калектыў «Куранты» з Бельска.

— Мы пачнем выступ песняй «Калімэра» на грэчаскай мове, якую падрыхтавалі на выступы ў Грэцыі. Пабывалі мы там разам з гайнаўскім хорам «Рэха пушчы», — заявіла мастацкі кіраўнік «Курантаў» і хору «Рэха пушчы» Аліна Негярэвіч.

Калектыў «Луна» з Парцава спявае інакш, чым «Куранты», але спеў у яго выкананні таксама спадабаўся публіцы ў амфітэатры. На запусты ў Бельск прыбылі калектывы са сталіцы Беларусі — заслужаны любіцельскі фальклорны калектыў «Дударыкі» Гімназіі № 14 у Мінску і заслужаны фальклорны калектыў «Купалінка» Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску. Арганізацыйны кіраўнік «Купалінкі» Алег Літвінюк удакладніў, што іх ансамбль нядаўна выступаў на Беласточчыне ў розных мясцовасцях у час Актавы культур і прадбачваецца выступ калектыву з Мінска падчас музычных мерапрыемстваў у Кляшчэлях і Міхалове. Калектывы са сталіцы Рэспублікі Беларусь захапілі публіку, якая пасля паасобных песень і танцаў моцна апладзіравала мінскім майстрам.

— У калектыве «Дударыкі» займаецца каля ста вучняў. Карыстаемся каля сарака музычнымі інструментамі. Мы прэзентуем беларускую народную музыку і беларускія народныя танцы ў маёй аранжыроўцы. Мы давалі канцэрты ў Германіі, Францыі, Аўстрыі, Партугаліі, Паўднёвай Карэі і многіх іншых дзяржавах і таму развучвалі таксама песні на замежных мовах. У нашай школе дзейнічае музей народных інструментаў. Прэзентуем таксама лепшых майстроў па вырабе народных музычных інструментаў у Беларусі, — распавядаў мастацкі кіраўнік «Дударыкаў», заслужаны дзеяч культуры РБ Дзмітрый Ровенскі.

У канцы «Спасаўскіх запустаў» дзетак і ўдзельнікаў мерапрыемства частавалі тортам, на якім быў надпіс «25 гадоў». Закончыліся запусты выступам калектыву «Ас» з Беластока, пад гукі якога ахвотныя танцавалі.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Казка
## пра выбары

Зноў выбары! У нас, у Беларусі, зноў выбары! Гучыць сатырычна, ужо не першы раз так гучыць, але факт ёсць фактам. Хутка ўжо выбіраць пасунемся. Працэс пайшоў.

Калі гэты працэс можна назваць выбарчым. Зрэшты, не важна як назавеш, важная яго сутнасць. Бо калі пачнём прыдзірацца да слоў, то ўвогуле слова „выбары" можа назаўсёды знікнуць з чалавечага лексікону. Прычым не толькі ў нас. Ну, але гэта ўжо філасофія. У ёй і заблытацца лёгка, але цяжка выблытацца, як мужыку з бабскай спадніцы. Таму лепш вернемся да нашых бараноў. Дакладней да выбараў.

Памятаю, як некалі даўно адзін дасведчаны чалавек з замежжа распавядаў мне анекдот пра выбары:

Прывёў, маўляў, Бог да Адама Еву, ды кажа:

— Адам, выбірай сабе жонку!

Я тады падумаў, што вельмі адпавядае гэты анекдот савецкім выбарам. Часы былі тады савецкія. Зараз ужо Савецкага Саюза няма даўно, яго толькі мараць аднавіць некаторыя апантаныя імклівым рыўком у мінулае галовы, але той анекдот нечым актуальны і для сённяшняй Беларусі.

Вось толькі персанажаў крыху стала больш. Ёсць нібыта ямчэ нейкія афіцыйныя кандыдаты на ролю афіцыйнай Евы, або Еваў, раз гаворка ідзе пра так званыя парламенцкія выбары. У наяўнасці і афіцыйныя змеі і не менш афіцыйныя райскія яблыкі. Кожнай афіцыйнай Еве па адным забароненым плодзе выдаецца. Толькі яна яго Адаму не дае, а выключна заманьвае ім. Абяцае, так бы мовіць, з прыроднай хітрасцю і спакусай.

Нібыта ёсць і кандыдаты на неафіцыйных Еваў. У тых, праўда, праблемы з райскімі яблыкамі, якіх на ўсіх бракуе. Таму яны спрабуюць адкрыць Адаму вочы на тое, што і ад афіцыйных Еваў яму яблычнага пірага чакаць няма чаго. Але Адам і так больш цікавіцца алкаголем, чым абяцанымі яблыкамі. Кажа, што сінічка ў руках значна лепш, чым журавель у небе.

Са змеямі таксама ўсё ў парадку. Іх многа, і на іх месца кандыдатаў ямчэ больш. Яны гатовыя прадставіць Еву Адаму і пракантраляваць, ці правільна той сябе паводзіць са сваёй абранніцай. Ну і абранніцу пракантраляваць трэба, каб не асабліва з Адамам загульвала. Хай загульвае са змеямі лепш. Змей у сучасным табелі па рангу стаіць вышэй Адама, таму і на Еву мае значна большыя правы.

На гэтым персанажы не заканчваюцца. Там іх больш, чым у п'есах Ульяма Шэкспіра або казках Ганса Хрысціяна Андэрсана. Ёсць і ваўкалакі, і ведуны, і вядзьмаркі, і ведзьмакі... Каго там толькі няма?! Сюжэт крыху адрозніваецца ад біблейскага, ну дык і райскі сад тут толькі абяцаюць...

Маюцца і іншыя постаці.

Ёсць і Адам у выглядзе народа, які як быццам бы мусіць выбраць Еву. Але згубіў ужо ўсялякую цягу да палавога жыцця ў цэлым, і да жанчын у прыватнасці. Таму Адам не асабліва перайmаецца, як там тая Ева выглядае. Не вельмі цікавіцца і тым, якія ў яе яблыкі. Бо, мяркуе сам сабе Адам, што тыя яблыкі Ева з'есць сама, або з якім змеем ці ваўкалакам. Яму і агрызка не застанецца.

Яму б, Адаму, зелля якога чарадзейнага наварыць, каб флюіды ды гармоны зайгралі. Ці пабольш „віягры" адкуль-небудзь даставіць, каб абудзіць цікавасць да Еваў. Глядзіш, пачаў бы ён паглядаць на Еваў, прыглядацца як якая рухаецца, як выглядае. Якая харашэйшая, якая ладнейшая. У якой з генетыкай перавагі, у якой з характарам. У якой хата бляхай крытая, а ў якой характар больш прывабны. Якая з прыстойнай сям'і, а якая прыгажуня, што свет не бачыў. Ну каб выбіраць пачаў Адам. Выбар хоць і не вельмі разнастайны, але ж ёсць.

На Евіну маму, будучую цешчу, таксама глянуць не грэх. Ну гэта ўжо без „віягры". І без чарадзейнага зелля. Тут цвярозым вокам трэба ацэньваць.

Ну а на самых Еваў толькі з тым зеллем, раз зусім прапала цікавасць ды цяга да іх.

Ды вось бяда, Евы што афіцыйныя, што не афіцыйныя, абяцаюць выключна райскія яблыкі. Іншых паднашэнняў Адаму не робяць, і нават не плануюць. Думаюць, што п'яніца праспаца можа, а вось Адам ніколі. Эх, чуе маё сэрца, дагуляюцца яны...

Ну не, хопіць пра выбары. З нашымі выбарамі ўсё ж больш заблытаешся, чым мужык у бабскай спадніцы. Нават з філасофіяй, хіба, менш блытаніны.

А развязка ў казцы можа быць толькі адна. І толькі тады, калі Адама ўсё гэта вельмі моцна дастане...

Віктар САЗОНАЎ

# Высыхаючыя студні

Мой агарод паціху памірае — студня высыхае. Тое ж і ў суседзяў. Няёмка хадзіць да іх з просьбай пра вядро вады. Бо што з аднаго вядзерца? Восем было б недастаткова. Усім патрэбна вада. Для сябе, для агарода, для кветкавых загонаў. Але ў студнях стагновіцца менш вады. Менш на паўкруга, на чвэрць. У іншых толькі бруднае балота. Гэта ў маёй вёсцы. Вядома, у іншых таксама. Дэфіцыт вады з году ў год павялічваецца. Але, здаецца, мы недаацэньваем гэты факт. Бо летам ідзе дождж, зімой снег, рэкі ўсё ямчэ цякуць. Дык мы паціскаем плячыма. Ну, вады ў студнях усё менш — маем ваду ў водаправодах. Але ў сёлетняе лета ў некалькіх камунальных сетках не хапала пітнай вады. Гэта былі вялікія гарады. Гарады без вады! Ці трэба больш віднае папярэджанне? Што там гарады! Вёска таксама прагне вады. У нашай вёсцы дваццаць пастаянных жыхароў, дзясятак курэй і пяць авечак. Для людзей вады дастаткова для тонкай гарбаты ці супу. Для курэй ці авечак таксама хопіць у смагу. А як быць з вёскамі, дзе маштабная свінагадоўля і жывёлагадоўля? Там, напэўна, выкарыстоўваюцца глыбокія студні. На жаль, высыхаюць не толькі дробныя крыніцы, але і глыбокія. Вада быццам адыходзіць ад чалавека, ратуючыся ад яго неабдуманай сілы. Гаворка ідзе пра матэрыяльны аспект. Але ёсць і духоўны. Што будзе, калі высахне «Крынaчка»? Уявіце толькі тыя сотні паломнікаў, моўчкі стаяўшых над студняй, дзе заўсёды была святая вада. Над студняй высахлай да дна? Гэта сапраўды апакаліптычная ўява. Страшная ўява і няхай яна ніколі не спраўдзіцца. І ўсё ж яна не неверагодная. Прыйшлося нам жыць у эпоху высыхання крыніц...

Вада, асаблівa ў хрысціянскай культуры, важная. І ў сімвалічным, і рэлігійным плане. Менавіта праз яе адбываецца хрышчэнне, праз сваё сакральнае матэрыяльнае пасрэдніцтва яна ператвараецца ў духоўнае. Культ святых крыніц квітнее па ўсім свеце. Не толькі вернікі адчуваюць іх жыватворную сілу. Святая вада, на думку многіх, не толькі вылечвае, але і ачышчае ад грахоў. Сотні тысяч людзей здзяйсняюць паломніцтвы да крыніц. Нашто іх ахвяра, іх надзея, вера, калі яны дасягнуць сухіх крыніц?

Учора я выграб чатыры вёдры каламутнай вады. Калісь я б без ваганняў пайшоў бы да суседа, нават у яго адсутнасць. Сёння няправільна заходзіць у чужы двор, не пытаючыся і проста браць столькі вады, колькі трэба. Гэта як красці яе. Чулі такое — красці ваду?! Ваду бралі свабодна, бо яна заўсёды была агульным дабром. Студня — прыватная ўласнасць, але не вада. Таму прасілі не вады, а магчымасці скарыстацца студняй і ўвайсці ў чужую маёмасць. Ніколі не прасілі вады. Звычайна нікому не адмаўлялі. Гэта было б непрыгожа. Гэта было б вельмі недарэчна. Сёння гэта магчыма. Гэтыя змены ў маральнай сферы трэба адзначыць.

Аднак ад смагі ніхто не памірае. Падляшша — не пустыня. Нарваўскія лугі ямчэ зялёныя. Рака ўсё ямчэ цячэ. Ці сапраўды гэта рака? У сярэдзіне плыні пясчаныя касякі ўжо фармуюцца. Я не магу думаць пра гэта. Прыбярэжныя трысняґі зацiскаюць як карыта пятлёй. Калісьці шырокая, цяпер вузкая і мелкаводная, Нарва задыхаецца. Яе ток не бяжыць, не коціцца, ледзь кульгае. Калі спыніцца, як старац, якому проста больш не хапае сілы ісці наперад, калі яна ператворыцца ў стаячую лужыну, пачнуцца войны... нават за чыстую ваду. Любая вайна заўсёды пачынаецца запозна, каб захаваць праз яе радыкальныя наступствы, былы парадак рэчаў. Вайна — квінтэсэнцыя змен, якія непазбежна адбываюцца ў кожнай, нават самай стабільнай сістэме. Не існуе штосьці такое як нязменны парадак рэчаў. Вайна — гэта толькі вынік пераменлівасці. Варта прывыкнуць да такога ўсведамлення, што не абазначае, што пазбягаць войнаў бессэнсоўна. Зусім наадварот. Трэба рабіць усё, каб не прывесці да іх. Можа, варта пачаць з павагі да вады?

У нас, людзях, ёсць штосьці злоснае і непрадказальнае, што мяне асабіста палохае. Паколькі чалавечая свядомасць выкарыстоўвае празмерна скарочаную экзістэнцыяльную перспектыву, чалавек не распрацоўвае сваіх дзеянняў на доўгатэрміновыя раздзелы, задавальняецца іх скарочанай меркай. Гэта заснавана на эгаізме, прыроджаным чалавеку. Калі нам сёння аднасна добра, то чаму заўтра павінна быць зусім дрэнна? І калі камусьці дрэнна, чаму б гэта мае не пагоршыцца? Вада — незаменны элемент для жыцця чалавека. Закавычка ў тым, што мы ставімся да яе так бяздумна, быццам бы мы былі ўладальнікамі бяздонных студняў.

Міраслаў ГРЫКА

Сваімі вачыма

# Розныя фарбы паўстання



Апошнія выходныя правёў я ў Варшаве. Тры дні пабыўкі не былі звязаныя з аніякімі справамі, а проста з адпачынкам, вандраваннем, каштаваннем яды дзеля атрымання задавальнення для духу і цела. Проста хацелася мне павандраваць мясцінамі, якія пакінуў я трыццаць гадоў таму назад, вяртаючыся на Беласточчыну пасля студэнцкага перыяду. Менавіта абавязковым пунктам маёй турыстычнай паездкі стаў мой Гістарычны інстытут Варшаўскага ўніверсітэта і лавачка з вечным студэнтам, пры якім абавязкова зрабіў сабе фотку. Але больш неверагоднай справай у гэты момант аказаліся раптоўна ўсплыўшыя ўспаміны, якія вярнулі мяне ў студэнцкія гады. Раптам мне здалося, што проста ўсё памятаю быццам я быў тут учора, а не тры дзясяткі гадоў таму назад. Першыя заняткі, сябры, выкладчыкі проста перасоўваліся перад вачыма і ў галаве. Нават успомніліся дыялогі і размовы на занятках. Цяпер ямчэ больш адчуў я, якім важным у маім жыцці быў студэнцкі перыяд з паловы васьмідзясятых гадоў да пачатку дзевяностых. І адчуванне хуткацечнасці часу і жыцця ў гэтыя хвіліны адчуваліся вельмі моцна. З універсітэта паплыў я далей Кракаўскім прадмесцем у бок Старога горада. З кожным метрам дарогі проста ў вачах павялічваўся прыток турыстаў з усяго свету. Вакол мяне чутнымі былі руская, іспанская, французская, англійская і іншыя мовы — відавочны знак доўгіх выхадных у краіне. У думках я вельмі радаваўся, што парад з нагоды свята Войска Польскага праходзіў у гэты момант у Катавіцах, бо інакш не было б сэнсу вандраваць у яшчэ большым натоўпе, сціснутым бы тыя селядцы ў бочцы.

Па дарозе пры помніку Адаму Міцкевічу мужчынскі калектыў з шасці асоб бадзёра спяваў песні перыяду Варшаўскага паўстання, якое ўспыхнула ў жніўні 1944 года. Той, хто ведаў словы, падпяваў ім. Тут здавалася, быццам паўстанне было радасным і выйграным здарэннем, а не прайграным і пралітым крывёю двухсот тысяч цывільных жыхароў Варшавы і поўным разбурэннем левабярэжнай часткі сталіцы Польшчы. Канцэрт пры помніку натуральным чынам уплёўся ў маю праграму наведвання на наступны дзень Музея Варшаўскага паўстання. Перад выездам у Варшаву прачытаў я кніжку Пётра Зыховіча «Obłęd '44. Czyli jak Polacy zrobili prezent Stalinowi, wywołując Powstanie Warszawskie». Менавіта гэтая публіцыстычная кніжка ў пыл і прах разбурае патрыятычныя аповед і сённяшнюю гістарычна-асветную палітыку ўлад у дачыненні да падзей 1944 года. Публікацыя сустрэлася з рэзкай крытыкай з боку правых журналістаў і Інстытута нацыянальнай памяці. Думанне ў катэгорыях гістарычнай альтэрнатывы — неабходная справа пры падзеях, якія прынеслі з сабою такое цярпенне і чалавечыя страты таксама для наступных польскіх пакаленняў. Бо трэба памятаць, што ўдзельнікамі і ахвярамі паўстання былі патрыятычна настроеныя падлеткі і моладзь, узгадаваная ў незалежнай, міжваеннай Польшчы. І вось менавіта яны — будучыня нацыі — паклалі свае галовы ў поўнасцю няроўным баі. Паводле аўтара, такія баі ўвогуле не павінны мець месца ў сувязі з тагачаснай мілітарна-геапалітычнай сітуацыяй. Са старонак кніжкі вобраз акалічнасцей паўстання явіцца нам як час палітычных інтрыг, здрады і непаслухмянасці кіраўніцтва Арміі Краёвай, вайсковай недальнабачнасці і дылетанцтва людзей, прымаючых рашэнне пра выбух паўстання. Асабліва, беручы пад увагу ўзбраенне паўстанцаў, лепш у гэтым месцы казаць пра адсутнасць рэальнага іх узбраення, і нямецкія сілы, якія клалі покатам атакуючых іхнія пазіцыі паўстанцаў. Пасля прачытання згаданай кніжкі, шпацыруючы варшаўскімі вуліцамі, увесь час я думаў пра трагічны лёс сталіцы і яе жыхароў у час Другой сусветнай вайны.

Пабыўка ў Музеі Варшаўскага паўстання праходзіла ў неверагоднай колькасці наведвальнікаў. Чэргі за білетамі і чаканне, каб увайсці, трывала як мінімум паўтары гадзіны. Я на шчасце набыў квіток праз інтэрнэт і таму чакаў толькі сорак хвілін. І тут таксама пераважалі чужаземцы. Таму, каб дажэй затрымацца і ўсё дакладна прачытаць, не было ў мяне шанцаў. Проста турысты ззаду паганялі мяне, каб не спыняцца і даць ім магчымасць пагля дзець экспазіцыю. Але і так наведванне музея заняло дзве гадзіны. Які ж усё-такі парадокс — паўстанне перамагло ў выглядзе сучаснага музея, прысвечанага трагедыі Варшавы і яе людзей.

Яўген ВАПА

# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні (7)



Паэт Зніч сам сябе часта называе рыфмаром і гэта добрая падказка, калі ідзе пра мастацкае выяўленне. Ягоныя рыфмы наскрозь музычныя і эмацыйныя. Папраўдзе, гэта радкі для спеўнай чытанкі, з нябачным нотным запісам. Іншая справа — кантраверсіі, якія чытач знаходзіць у тэматычных і сэнсавых спалучэннях. Разам з праваслаўнай ідэалогіяй, заснаванай на традыцыі непадзельнай Святой Русі, шмат месца адведзена нацыянальнай ідэі Беларусі. Бел-чырвона-белы сцяг паэт параўноўвае да колераў плашчаніцы, а родную мову — да гаючай, святой крыніцы. Між ідэалагічнымі і дыдактычнымі творамі нечакана прабіваюцца лірыкі-малітвы, як верш пра зніканне Беларусі:

*... па чым — начамі — сэрца баліць?...*
*што дом мой — пусты*
*і растурашчаны...*
*што няма дзе галавы прытуліць —*
*Госпаду... і... — Беларушчыне...*

Ці горкі роздум над недахопам веры, надзеі, любові, без якіх жыццё губляе сэнс:

*Школы і вёскі — пусцеюць...*
*могілкі — жах!... — як растуць...*
*... на будучыню надзею —*
*як — Беларусі — вярнуць?...*

Пэўную падказу на нестандартны, поўны ўнутраных супярэчнасцей і нечаканасцей творчы пераказ прыкмецім у біяграфіі паэта-манаха.

* * *

Нарадзіўся ён напрыканцы 1939 года напярэдадні айчынай вайны ў сям'і славутага скульптара Андрэя Бембеля. Мастацкая атмасфера дому праграмавала на творчы шлях. Спачатку захапіўся музыкай, закончыў музычную школу і паступіў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Аднак стаць прафесійным піяністам не дазволіла дзіўная акалічнасць. Гэта здарылася ў дзень, калі будучы манах адзначаў 25 год з дня нараджэння. Ён распаўсюджваў сярод студэнтаў сваю паэму, якая спалучала ідэі хрысціянства з камунізмам. Верыў, што сапраўдная камунія ідзе ад Хрыста. Такі светапогляд ён пераняў ад роднай цёткі, дысідэнткі. Рэха здарэння знойдзем у рыфмаваным эсэ пад загалоўкам «...Я...»:

*... але Бог мне паслаў — ад маленства —*
*цёцю Стасю — матуліну сястру...*
*... і яна зберагала — ад шаленства —*
*небараку... — на чорным вятру.... —*
*... бо студэнткай — ГУЛАГ паспытала...*
*Мужа і сына — згубіла ў вайну...*
*й веру Праваслаўную захавала...*
*й несла каротка народа віну...*
*... і ня лішняй была яе вера...—*
*ў дзетдомах яна мамай была...*
*... усё жыццё правяла — ля бар'ера...*
*і ў вечнасць — з усмешкай сышла...*
*... я за дзень да таго — ахрысціўся...*
*(у сорак два!...) — пад уплывам яе...*
*... але доўга йшчэ ў свеце круціўся... —*
*у сэрцы бес сядзеў... і ў галаве...*

Той інцыдэнт у дзень народзінаў завёў будучага манаха ў псіхушку. Спачатку выклікалі на дыван бацьку і заявілі, што сын павінен паддацца прымусоваму лячэнню, інакш яго чакае турма. Мачыха, прафесар медыцыны, пераканала сям'ю, што нічога дрэннага не здарыцца, калі крыху патрымаюць яго ў псіхіятрычным шпіталі. Але жыццё пісала свой асобны сцэнарый. У псіхушцы напампоўвалі моцнымі псіхатропамі, пасля якіх збіраўся кансіліум і людзі ў белых халатах пыталі ці далей верыць у Бога. Калі чулі станоўчы адказ, усе працэдуры паўтаралі ад нова. Ад гэтага пайшлі правалы ў памяці, апатыя, немач. Спалоханы бацька на ўласную адказнасць забраў яго са шпіталя. Каб вярнуць да жыцця, ён праз маскоўскіх сяброў накіраваў сына ў эксперыментальную лабараторыю прафесара Нікалаева, які распрацоўваў эфект лячэбнага галадання. За месяц тэрапіі непакорны студэнт згубіў 14 кілаграмаў вагі і, «ачышчаны», падаўся ў Калужскую вобласць, каб працаваць там выкладчыкам фартэпіяна. Адначасова яшчэ больш паглыбляўся ў філасофскія разважанні пра сутнасць жыцця. Музыка і экзамены ў кансерваторыі сышлі на другі план. У 1971 годзе нядаўні музыкант вярнуўся ў Мінск, напісаў рэферат у аспірантуру Інстытута філасофіі і быў туды прыняты.

У ролі філосафа, члена КПСС, Алег Бембель працаваў да 1986 года. Гэты этап сарваўся разам з лонданскім выпускам кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтыны прагрэс». Музыка і філосаф павіс у дармаедах.

* * *




Лёс аднак пракладаў наканаваны шлях у літаратуру. У 1989 годзе лонданскую кніжку станоўча ацаніў Саюз беларускіх пісьменнікаў і прыняў Алега Бембеля ў свае рады. Прыблізна ў той складаны час выйдуць паэтычны зборнікі «Саната Ростані», «Рэха малітвы» і «Малітвы за Беларусь». Новыя прапановы адбудуцца ў 1991 годзе, калі Адам Мальдзіс запрасіць далучыцца да новай культуралагічнай структуры — Нацыянальнага навукова-даследчага цэнтра імя Францішка Скарыны. Таму, будучы манах Іаан, калі прыйдзе ў 1996 годзе ў манастыр, разам з сабой прынясе немалы літаратурны набытак. Тут атрымае блаславенне на рэдакцыю жыровіцкага бюлетэня і заснаванне літаратурна-мастацкага аб'ядання «Крэсіва».

Ды пакуль у прыманастырскай альтанцы пачнуцца літаратурныя чытанні, я спытаю пра новага нябеснага заступніка. Імя Іаан манах узяў ад пакутніка Івана Вячоркі, вясковага святара з Бабруйшчыны, якога арыштавалі і знішчылі бальшавікі ў 1933 годзе.

Сам манах Іаан і паэт Зніч у снежні будзе адзначаць 80 гадоў з дня нараджэння. З гэтай прычыны яго часта называюць найстарэйшым манахам Беларусі. Некаторыя факты і здарэнні з жыцця адлюстраваныя ў падборцы вершаў і публікацый «... Айчына ... зямная і нябесная... (саната мета-ўспамінаў)». Падборку завяршае твор «... Апошняму земляніну...» з падзагалоўкам «(дзе б і ў якіх стасунках і стане ты ні быў...)»

*... — ... будзь са Хрыстом... ... хай поймуць тваё сэрца*
*Ягоны прыклад... Слова... Плоць і Кроў...*
*... і ты ніколі не спазнаеш смерці... —*
*бо Смерцю смерць перамагла любоў...*

Сапраўды, мой субяседнік здаецца вечна маладым і як ніхто свабодным чалавекам. І ўжо напамінае сваіх манастырскіх настаўнікаў, старцаў. У час нашай бяседы і чытанняў падыходзілі паломнікі папрасіць у манаха Іаана блаславення.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

## Бельская дэмаграфія

Вясковая гміна Бельск-Падляшскі займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў — гэта адна трэцяя частка Бельска-Падляшскага павета. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 74% усяе тэрыторыі, а лясы — 19%. Зараз у гміне пражывае 6620 чалавек у 60 населеных пунктах. На 100 жанчын прыпадае столькі сама мужчын. Шчыльнасць насельніцтва складае 16 чалавек на квадратны кіламетр. Варта адзначыць, што ў 2015 годзе Бельска-Падляшская вясковая гміна налічвала 6966 чалавек. Як бачым, лік вясковага насельніцтва рэзка памяншаецца.

У 2019 годзе найбольшыя вёскі ў гміне гэта Відава — налічвае 560 жыхароў, Аўгустова — 554, Пілікі — 303, Кнарыды — 243, Лубін-Касцельны — 227, Плёскі — 226, Дубяжын — 202, Праневічы — 195, Кнаразы — 183, Гацькі — 171, Парцава — 160, Галады — 157, Грабавец — 156, Райск — 143, Крывая — 135, Труські — 114, Грыневічы-Вялікія — 113 і Грыневічы Малыя — 107.

Вёскі сярэднія па колькасці жыхароў гэта Храбалы — 104, Плютычы — 103, Лубін-Рудолты — 100, Леўкі — 98, Вароне — 97, Зубава — 95, Болесты — 94, Петшыкова-Галомбкі — 90, Агароднікі — 88, Банькі — 85, Шасталы — 84, Пасынкі — 80, Завады — 76, Бжасцянка і Сакі — па 74, Дэніскі — 72, Собутка — 70, Налогі — 65, Дабраміль — 60, Мокрэ — 59, Піліпкі — 57, Мякішы і Локніца — па 54, Гусакі і Стрыкі — па 53, Кожына — 52, Скшыпкі-Вялікія — 50, Скшыпкі-Малыя — 49, Малінова — 47, Катлы і Сталаваач — па 46, Серакавізна — 45, Райкі і Трашчаткі — па 43 і Жэпнева — 36.

Да найменшых вёсачак належаць Арлянка — тут жыве ўсяго 7 чалавек, Яцэвічы — 13, Белая і Падбелле — па 18 і Ступнікі — 20.

Ад 2016 года паменшала жыхароў у Налогах — на 24 чалавекі, Кнарыдах — на 20 чалавек, Парцаве — на 18, Грабаўцы — на 17, Дабрамілі і Крывой — на 14, Кнаразах і Лубіне-Рудолтах — на 13, Дэніскаx, Дубяжыне і Галадах — на 11, Грыневічах-Малых — на 10, Зубаве і Сталавачу — на 9, Трашчатках — на 7 і Труськах — на 5.

Пабольшала жыхароў у вёсках Пілікі — на 19, Галады, Гусакі і Плёскі — на 11, Відава — на 10, Плютычы — на 9, Праневічы — на 8, Петшыкова-Галомбкі — на 5 ды Арэхавічы і Райкі — на 4.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Час збірання грыбоў

Апошнім часам у наваколлі Беластока высыпаліся баравікі, краснюкі, казлякі і лісічкі. 15 жніўня мая дачка Аліна з сынам сабраліся наведаць Кінгу, якая пражывае ў Заблудаўскай гміне. У святочную раніцу рашылі праверыць што дзеецца ў навакольным лесе. І вельмі абрадаваліся, калі трапілі на палетак з грыбамі. Адзін пры другім красаваліся баравікі, краснюкі, казлякі. А на маім палетку, які мяжуе з кузаўскім лесам, ніякая бэтка не вырасла. Значыцца, яшчэ не прыйшла грыбная пара. Спадзяюся, што неўзабаве і я буду збіраць грыбы ў запас на зіму. Усё ж такі набліжаецца восень — час збірання грыбоў.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Дажынкі ў Нараўцы

1 верасня гэтага года гмінныя ўлады ладзяць дажынкавы фэст у Нараўцы Гайнаўскага павета. А 15-й гадзіне пачнецца ён экуменічнай малітвай у амфітэатры.

Ад гадзіны 16-й на сцэне выступяць вакальныя калектывы „Цаглінкі", „Нараўчанкі", „Дубіны", Марк Цясноўскі з калектывам ды „Росніца" з Рэспублікі Беларусь.

На заканчэнне мерапрыемства будуць узнагароды ўдзельнікам гмінных конкурсаў на найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу і агратурыстычную кватэру ды на найпрыгажэйшы дажынкавы вянок. **(яц)**

# Каранацыя Ягайлы

*Абдумай сцежку назе тваёй, і ўсе дарогі твае хай будуць пэўныя.*

**Кніга выслоўяў Саламонавых 4.26**

620 гадоў таму ў 1399 годзе ва ўзросце 25 гадоў пасля смерці свайго адзінага дзіцяці немаўляткі Альжбеты памерла каралева Ядвіга, пакінуўшы Ягайлу адзінаўладным уладаром Каралеўства Польскага. Дынастыя Ягелонаў будзе ўладарыць яшчэ 173 гады. А пачыналася ўсё так.

4 сакавіка 1386 года ў Кракаве адбылася ўрачыстая каранацыя вялікага князя літоўскага Ягайлы на караля польскага. Падзея каранацыі не была нечым незвычайным для тагачаснай Еўропы. Ды і ў Польшчы быў на памяці нядаўні два гады назад рытуал каранацыі. Таму Ян Длугаш, кракаўскі канонік і аўтар знакамітай „Гісторыі Польшчы" нават не прыпыняецца на падрабязнасцях урачыстага рытуалу. І няма яго віны, бо не толькі ён і яго сучаснікі не разумелі ўсяго значэння адбыўшайся падзеі, але і да гэтага часу яшчэ яе поўнасцю не ацанілі.

Атрымаўшы ўладу пасля смерці бацькі, вялікага князя літоўскага Альгерда, Ягайла апынуўся як той казачны герой на раздарожжы. Рэчаіснасць прымушала зрабіць выбар з трох магчымасцей. Калі быць пасіўным, крыжакі, маскалі і татары будуць скубці па пасме шэрсці да поўнага аблысення. А ўнутры краіны набіраў вялікасці стрыечны брат Вітаўт і не драмаў у шапку родны брат Андрэй Полацкі. Вялікая верагоднасць грамадзянскай вайны, страты ўлады, заняпаду краіны.

Была яшчэ магчымасць „выйсці замуж" за дачку Дзмітрыя Данскога і стаць маскоўскім васалам.

І трэцяя магчымасць: стаць каралём Польшчы, тым самым павялічыўшы на трэць тэрыторыю і больш чым удвая насельніцтва падуладнай краіны. Акрамя таго ахрысціць апошняе апірышча паганства ў Еўропе — Літву.

Спадарства, што выбралі б вы?

Польшча апынулася ў той час на такім жа раздарожжы. Тое, што на польскім троне знаходзіўся 12-гадовы кароль, не вялікае выключэнне і нязручнасць. Заўсёды знойдуцца дарадцы. Але тое, што гэты кароль — дзяўчынка, было сапраўды незвычайным. Я не памыліўся. 16 кастрычніка 1384 года адбылася каранацыя дачкі караля венгерскага і польскага Людовіка Венгерскага і Лізаветы Басняцкай — Ядвігі Анжуйскай і яна была абвешчана каралём Польшчы. А да ўлады рваліся нашчадкі каралеўскай дынастыі Пястаў. Не бракавала іншых кандыдатаў. Краіна была ў стане вайны за карону. Сітуацыя ўскладнялася тым, што перад выбарам стаяла многагаловая шляхта і кожная галава глядзела і цягнула ў свой бок. Звонку існавала пагроза захопу краіны крыжакамі. Польшча ўжо толькі страціла Сілезію, Памор'е ды іншыя землі, была адрэзаная ад мора, але і стаяла перад небяспекай поўнага анямечання. Дый з боку моцнага Беларускага гаспадарства над Польшчай заўсёды вісела пагроза, пацвярджэнне чаго — пераможныя ваенныя паходы Альгерда ў 1376 годзе і Ягайлы ў 1383-1384 гадах.

Аддаць Ядвігу замуж за яе жаніха аўстрыйскага герцага Вільгельма значыла завяршыць анямечванне Польшчы.

Існаваў яшчэ варыянт: жаніхом мог быць вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Ягайла і гэта вырашала многія існаваўшыя праблемы і, акрамя таго, адкрывала перспектывы набыцця шляхтай дадатковых прывілеяў, падвышэння яе і так высокага статусу.

Панове, што выбралі б вы?

Пацвярджэннем зробленага выбару з абодвух бакоў стала Крэўская унія, падпісаная 14 жніўня 1385 года ў Крэўскім замку.

Змест Крэўскай уніі многія беларускія гісторыкі падвяргаюць сумневу, гаворачы, што яе арыгінал быў падроблены польскай стараной. Але, нават калі адкінуць гэтыя патрыятычныя галасы, то з упамянутай уніі Ягайла не спяшаўся выканаць і не выканаў далучэння Вялікага Княства да Кароны.

З надзвычайнай цікавасцю чакалі ў польскай сталіцы Кракаве прыезду „дзікага ліцвіна". Сюды ўжо дайшлі чуткі пра падпісанне уніі ў Крэве. Але больш за ўсіх хвалявалася каралева на выданні, трынаццацігадовая Ядвіга, бо да яе набліжаўся жаніх з кавалерскім стажам у трыццаць пяць гадоў, свежаспечаны хрысціянін з краю апошніх нехрысцяў Еўропы.

Але Ягайла не ляцеў у Кракаў як на крылах. Затрымаўся ў Ваўкавыскім замку і 11 студзеня 1386 года тут дачакаўся польскіх паслоў, якія яшчэ раз запэўнілі, што ўся шляхта Каралеўства Польскага згодна прыняць яго на караля і запрасілі на вальны сход у Люблін.

Ягайла ж не спяшаўся пакідаць Ваўкавыск і паслаў у Польшчу для гарантыі яшчэ некалькі сваіх давераных асоб, каб даведаліся яны аб настроях у Кракаве. А злыя языкі нашапталі Ядвізе, якое страшнае, усё пасечанае ў баях цела ён мае. Мала таго, у яе жаніха не хапае аднае вельмі патрэбнае дэталі, калі да гэтай пары ён яшчэ не ажаніўся. Каб мець поўную яснасць у такім далікатным пытанні, каралева загадала свайму даверанаму шляхцічу па імені Завіша, каб той як мага хутчэй ехаў да Ягайлы і патаемна падрабязна ўсё агледзеў, што ён за такі. Але будучы кароль, відаць, быў дастаткова пранікліві і зразумеў мэту прыезду пасланца. Таму неўзабаве, прыхапіўшы яго, Ягайла накіраваўся ў лазню, дзе „разведчык" змог „...дакладна зрэестраваць прысутнасць і будову асобных частак цела", як з веданнем справы адзначыў у сваёй хроніцы Ян Длугаш. Адразу ж пасля такога шматзначнага мыцця шляхціч Завіша памчаў у Кракаў, дзе аб усім падрабязна даклаў. Кароль Ядвіга зрабіла вывад: „Усё ў парадку".

Тут і давераныя асобы Ягайлы вярнуліся і данеслі задавальняючыя звесткі. Тады Ягайла сам сеў на каня і рушыў у Люблін, а затым далей — па хрост, руку Ядвігі і каралеўскую карону.

12 лютага 1386 года Ягайла ўрачыста ўехаў у Кракаў, 15 лютага, быў ахрышчаны і атрымаў імя Уладзіслаў. 18 лютага адбыўся шлюб Ядвігі і Ягайлы і 4 сакавіка таго ж года Ягайла быў каранаваны на польскага караля як Уладзіслаў II.

У хуткім часе пасля каранацыі Ягайла з Ядвігай прыехалі ў Вільню, дзе знішчылі паганскія фетышы — непагасны агонь Перуна, абагаўляемых змей, святыя гаі, раздавалі навахрышчаным белыя суконныя світкі, скураныя боты і грошы, таму асобныя паганцы хрысціліся па два разы і больш. У Вільні Ягайла заснаваў каталіцкае біскупства і 7 плябаній. У час паездак па ВКЛ для пашырэння каталіцтва закладваў касцёлы і кляштары, напрыклад, у Абольцах (цяпер Талачынскі раён), Быстрыцы (цяпер Астравецкі раён).



Хрышчэнне Літвы. Марка пошты Літвы.

Кіеўскі князь Уладзімір ахрысціў Русь агнём і мячом, а вялікі князь ВКЛ ахрысціў Літву мірна, раздаючы падарункі. Наогул, калі параўнаць жыццёвыя дзеі Уладзіміра і Ягайлы, дык Ягайла выглядае сапраўдным анёлам у параўнанні з Уладзімірам. Але Уладзімір абвешчаны святым, а што датычыць Ягайлы, то некаторыя беларускія гісторыкі ставяцца да вялікага князя пагардліва. «Нас на бабу прамяняў!» — абураюцца зацятыя патрыёты, маючы на ўвазе Крэўскую унію 1385 года і шлюб з юнай Ядвігай у 1386 годзе, з якога пачынаецца шматсотгадовы хаўрус з Польшчай. Ягайлу ніяк не могуць дараваць забойства дзядзькі Кейстута, якое не даказана, суперніцтва з Вітаўтам, галоўным героем беларускага Сярэднявечча, і нават няўдзел у Куліковскім пабаёвішчы на баку Мамая.

Так, пачынаў Ягайла як тыповы валадар таго часу: спадкаемца Альгерда, у барацьбе за ўладу і ў альянсе то з крыжакамі, то з палякамі, то з маскалямі змагаўся супраць стрыечнага брата Вітаўта. Зброя, змова, здрада.

Але потым у жыцці Ягайлы адбыўся абсалютна выразны пералом. Храністы хорам сцвярджаюць, што з прыняццем каталіцтва Ягайла-Уладзіслаў пакаяўся ў мінулых грахах і стаў надзвычай пабожным. Кароль Ягайла, у адрозненне ад князя — ужо зусім іншы чалавек.

Ён заключае мір з Вітаўтам і прызнае таго вялікім князем літоўскім.

Ягайла ахрысціў паганскую Літву і Жмудзь у каталіцтва.

Ягайла кіраваў аб'яднаным усходнееўрапейскім войскам пад Грунвальдам.

Ён паўдня моліцца пад Грунвальдам і спявае псалмы разам з польскім войскам, раз'юшыўшы нецярплівых крыжакоў — а потым уступае ў бітву, б'ецца да апошняга і перамагае.



Ян Матэйка. Грунвальдская бітва. Рэпрадукцыя карціны на марцы Польшчы. Як бачым з тых часоў, навечна Пагоня заняла месца побач з гербам Польшчы.

Усёй другой паловай жыцця Ягайла выратоўвае сваю паганскую, бурлівую, поўную нянавісці маладосць. Сталы, сціплы, ціхі кароль Ягайла цяпер бярэ духовай лагодай і разважнасцю.

4 ☞ працяг

Таму, на мой погляд, Ягайла ніколькі не менш святы, калі не большы, чым Уладзімір.

Усё ж заслужаная ўзнагарода не мінула і Ягайлу. Як паведамляе ўспаміналы раней Ян Длугаш, 29 чэрвеня 1425 года кардынал Ярдан дэ Урсініс прыслаў польскаму каралю Уладзіславу II і яго чацвёртай жонцы Соф'і цвік, адзін з тых цвікоў, якія былі ўбітыя ў час укрыжавання ў цела Хрыста. Дакладней, частку таго цвіка, закладзеную ў сімвалічны цвік. Пасылку прымалі не толькі кароль з каралеваю, але працэсія жыхароў усяго Кракава. Цвік быў ахвяраваны на вечнае захоўванне знакамітаму кракаўскаму касцёлу — Вавельскай кафедры. Гэта быў дар папы рымскага Марціна V як акт прызнання заслугі Ягайлы ў хрысціянізацыі Літвы.

Ягайла, першы кароль польскі з вялікае Літвы — заснавальнік беларускае місіі на Захадзе. Спеўная беларуская мова і культура, што перакачавалі ў Кракаў разам з вялікакняскім дваром, традыцыя ўзнёслае веры і трапяткога ідэалізму, пачатыя Ягайлам і так ярка развітыя Касцюшкам, Міцкевічам, Сянкевічам, натхнялі Польшчу ва ўсе дабраслаўлёныя часы Ягайлавічаў.

Нельга асобна не сказаць пра маладзюткую жонку Ягайлы, Ядвігу, і пра Кракаўскі ўніверсітэт, які быў крыніцай беларускага духу ў Каралеўстве. Патрон-кай, нават духоўным светачам гэтага ўніверсітэта была Ядвіга, заснаванне якога стала, бадай, галоўнай дзеяй яе жыцця.




Карціна Яна Матэйкі, якая сімвалізуе заснаванне Ягелонскага ўніверсітэта.

Але не адзінай. Юрыдычна і фактычна Польшча мела двух уладароў і яны абое мелі роўныя правы на прыняцце рашэнняў. Трэба прызнаць, што гэтае двоеўладдзе прыносіла добры плён: замірэнне з Вітаўтам, хрышчэнне Літвы, вайна з крыжакамі — усе гэтыя пытанні вырашаліся пры актыўным удзеле Ядвігі. Сярод народа яна амаль адразу атрымала вялікае прызнанне і паважанне як святая.

Каралева Ядвіга памерла ва ўзросце 25 гадоў пасля смерці свайго адзінага дзіцяці немаўляткі Альжбеты ў 1399 годзе.

Калі ў 1949 годзе астанкі пахаванай на Вавелі каралевы ўскрылі з мэтай праслаўлення, то не ўбачылі ніякіх упрыгожанняў і каштоўнасцей, акрамя скуранай кароны з пазалотаю. Усе свае каштоўнасці, уласныя багацці, родавыя дыяменты гэта жанчына незвычайнага характава ахвяравала на стварэнне Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве.

Доўгі час Ядвіга ўшаноўвалася ў Польшчы як святая неафіцыйна. Урэшце культ быў зацверджаны: Ядвіга была беатыфікавана Каталіцкім касцёлам у 1986 годзе, кананізавана ў 1997; успамін 17 ліпеня.

Пасля смерці Ядвігі кароль ажэніцца яшчэ тройчы. І толькі ў апошнім шлюбе — з маладой і прыгожай князёўнай з нашых беларускіх краёў, Софіяй Гальшанскай, нарэшце займеў дынастычных інфантаў і тым самым заснаваў еўрапейскую каралеўскую дынастыю Ягайлавічаў — беларускі род будучых гаспадароў ВКЛ, Польшчы, Чэхіі, Венгрыі. А сасватаў яму гэтую прыгажосць вялікі князь літоўскі, з якім кароль не раз калаціўся, Вітаўт.

186 гадоў (1386-1572) уладарыла дынастыя Ягелонаў. Гаспадарства, якім кіравалі Ягелоны, уражвае сваімі памерамі: ад Балтыкі на поўначы аж па Чорнае мора на поўдні. На ўсходзе граніца ўладанняў праходзіла ў ста кіламетрах ад Масквы. 1 115 000 кв. км!

Гістарычны феномен: доўгае і дастаткова эфектыўнае супрацоўніцтва дзвюх буйных самадастатковых дзяржаў у гістарычнай рэтраспектыве канца XIV-XVI ст. немагчыма растлумачыць толькі ўзрастаючым знешнепалітычным ціскам — варожымі адносінамі з Ордэнам, Святой Рымскай імперыяй, Маскоўскай Руссю, Крымскім ханствам і стаячай за яго спінай Атаманскай Портай. Бо ў рэшце рэшт этапы мірнага суіснавання ВКЛ амаль з усімі суседнімі дзяржавамі пераўвышалі па сваёй працягласці перыяды ваенна-палітычнага супрацьстаяння. Справа зусім не толькі ў знешняй палітыцы і сумеснай абароне. Справа яшчэ і ў тым, што з часоў Крэўскай і Гарадзельскай уній канца XIV — пачатку XV стст. пачынаецца глыбокае ўзаемаўздзеянне культур, што адпавядала карэнным інтарэсам усіх народаў, якія ўваходзілі ў гэта аб'яднанне. Пачаўшы сваё кіраванне ў цяжкіх крызісных умовах, Ягелоны прывялі Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае да „Залатога веку".

Даволі звычайная падзея каранацыі 4 сакавіка 1386 года ў Кракаве ў рэшце рэшт прывяла да таго, што паміж палякамі, беларусамі і літоўцамі ніколі не было больш-менш значных баявых дзеянняў.

**Лявон КАРПОВІЧ**
Луна-Воля



Помнік Ягайлу ў Нью-Йорку.

На помніку надпіс: „Уладзіслаў Ягайла, кароль Польшчы, вялікі князь літоўскі. **Заснавальнік свабоднага Саюза людзей Усхода Цэнтральнай Еўропы.** Пераможца над тэўтонскім агрэсарам пад Грунвальдам 15 чэрвеня 1410 года".

Манумент быў створаны да Сусветнай выставы 1939 года ў Нью-Йорку скульптарам Станіславам Астроўскім. Польская дэлегацыя, якая прыехала на цырымонію адкрыцця, з-за пачатку Другой сусветнай вайны засталася ў Злучаных Штатах разам з так і не адкрытым помнікам.

У 1945 годзе манумент усталявалі на гранітны пастамент і да сённяшняга часу ён упрыгожвае плошчу Цэнтральнага парка Нью-Йорка.

## Нас возяць прыватныя аўтобусы

Ужо шмат гадоў у Гайнаўцы дзейнічае суполка, якая займаецца пасажырскім транспартам. Возіць яна людзей з Гайнаўкі, Дубін, Навасадаў, Скупава, Нараўкі, Гарадзіска, Плянты, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў і іншых навакольных вёсак на працу, між іншым, у Семяноўку і ў Гарбары каля Бандароў ды назад дадому. Паслугамі суполкі карыстаюцца перш за ўсё жыхары Гайнаўскай і Нараўчанскай гмін, найбольш з тых вёсак, праз якія не ездзіць ні адзін аўтобус ПКС. Прыватныя аўтобусы едуць у Гушчвіну, Альхоўку, Забрады, Прэнты, Семяноўку, Тарнопаль і Новае Ляўкова, але таксама і ў Міклашэва і Лесну. Прыватнымі аўтобусамі даязджае моладзь з Нараўчанскай гміны ў школы ў Гайнаўцы ды вяртаецца дадому.

Цяжка падумаць, што было б, калі б не ездзілі ў нас прыватныя пасажырскія аўтобусы. Ужо шэсць гадоў прыватны аўтобус ездзіць дадаткова пасля 10 гадзіны раніцы ў Лешукі цераз Нараўку, Гарадзіска, Плянту ды Новае і Старое Ляўкова. Раней ён ехаў толькі ў Нараўку і вяртаўся ў Гайнаўку. Да гэтага маршруту даплачвае гміна. Добра, што прыватныя аўтобусы ездзяць раніцай і вечарам таксама па суботах і нядзелях. У суботу можна таксама выехаць з Гайнаўкі ў вёскі Нараўчанскай гміны а гадзіне 12 і праз паўтары гадзіны вярнуцца ў горад.

Варта адзначыць, што прыватныя аўтобусы — хачу іх пахваліць — ездзяць рэгулярна і згодна з раскладам язды. Робяць усё магчымае, каб давезці пасажыраў на час. Дзякуй і хвала ім за гэта. Ездзяць па ненайлепшых дарогах. Зімой на іх маставыя не сыплюць пяску нават у час галалёдзіцы. Іншыя прыватныя фірмы пасажырскага транспарту не захацелі пусціць сюдою сваіх аўтобусаў, між іншым, фірма „Voyager".

Для жыхароў меншых і большых прыгранічных вёсак у Нараўчанскай гміне вельмі важна, што ўсё-такі могуць даехаць у Гайнаўку. Адтуль ім ужо лягчэй дабрацца ў Бельск-Падляшскі і Сямятычы, сталіцу нашай дзяржавы ды ў шырокі свет. У тым выпадку гайнаўская прыватная фірма вельмі дапамагае ўсім у падарожжы. **(яц)**

## Дэмаграфія Дубіцкай гміны

Зараз Дубіцкая гміна Гайнаўскага павета налічвае 1549 асоб (напрыканцы 2015 года тут пражывалі 1633 чалавекі). Яна абязлюджваецца. У гміне 28 вёсак і вёсачак, у тым ліку 17 салэцкіх. Шчыльнасць насельніцтва — 11 чалавек на 1 квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны.

Да найбольшых і сярэдніх вёсак належаць Грабавец — тут 241 жыхар, Дубічы-Царкоўныя — 234, Ягаднікі — 148, Тафілаўцы — 117, Стары Корнін — 114, Карыцкі — 93, Чахі-Арлянскія — 77, Вітава — 67, Вэрсток — 59, Елянка — 51 і Войнаўка — 43.

Ад 10 да 40 жыхароў маюць вёсачкі Красkоўшчына — 10, Пяскі і Сямівалокі — па 11, Бобінка — 14, Пасечнікі-Малыя — 16, Старына — 17, Вілюкі — 20, Доўгі Брод — 21, Гурны Груд — 24 і Рутка — 37.

Самых маленькіх паселішч у Дубіцкай гміне шэсць: Забагоне — 10 жыхароў, Круглэ — 4, Выган, Клякава і Якубова — па 2 ды Нікіфароўшчына — 1 жыхар.

На працягу апошніх двух гадоў чатырнаццаць чалавек памерла ў Тафілаўцах, адзінаццаць у Вітаве, сем у Дубічах-Царкоўных, пяць у Войнаўцы, чатыры ў Ягадніках ды па два чалавекі ў Чахах-Арлянскіх і Карыцкіх. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Недасяжныя Канюкі!

Канюкі — вёсачка над ракою Нарвай.

Я, колькі жыву, ніколі там не была, толькі бачыла яе здалёк, калі пабывала ў бабулі. Канюкі для мяне былі як карціна. Я бачыла іх як на далоні, але здавалася, туды не дайсці, не даехаць. І гэта з дыстанцыі паўтары кіламетра, на другім баку ракі.

Вясной не дазвалялі туды хадзіць вялікія разлівы. Аднак зімой, калі раку скаваў лёд, людзі маглі наведаць сваякоў, адведаць знаёмых. І вось убачыла я плакаты з лозунгам «Таго яшчэ ў Канюках не было»

Цікава, што яны прыдумалі!

Мне захацелася туды ехаць, пабачыць. З panaдворка бабулі, на другім баку ракі, я пачула пачатак фэсту — па рацэ несліся гучныя песні. У Канюкі я дабіралася праз лес, а пасля праз Плёскі і мост на Нарве. На сцэне выступалі беларускія гурты. Было вельмі многа людзей. Славамір Трафімюк з гурта «Ас» расказваў як калісьці хадзіў на вясковыя забавы «за рэчку».

Я пасля прайшлася па вёсцы і пабачыла, як выглядае гэтая «недасяжная» з-за ракі вёсачка. Канюкі ажылі ад беларускіх песень, нават бусел з гнязда глядзеў на сцэну, дзе выступалі музыкі. Прырода, спевы і людзі прыгожа тут аб’ядналіся.

**Вікторыя Гаць,**
**фота аўтара**





Вікторыя і Славамір Трафімюк

Анатоль Грачанікаў

## Ад спёкі летняй

Ад спёкі летняй
Дол ачах.
Буслы спачылі
За ракою
На цёплых
Жнівеньскіх стагах
У насцярожаным
Спакоі.
Туман,
Асмужаны ледзь-ледзь,
Плыве
На поплаў і балота...
І трэба
Ногі адагрэць
Перад вялікім
Пералётам.
А мо надыхацца
Ім трэба
Настоем траў
Пад родным небам,
Каб водар гэты
Іх прывёў
З далёкай далечы
Дамоў.

## УВАГА КОНКУРС!

## № 34-19

**Ляжыць Кася, на цэлы свет расцягнулася, калі б устала, дык да неба дастала б.**

**(Д.....)**

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 9 верасня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 30: павуцінне. Узнагароду, кніжку «Казкі вандроўніка», выйграла Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Сустрачанскі апытальнік

**1. Сустрэчы «Зоркі» гэта для Вас:**

— Файнае месца для інтэлектуальных і творчых роздумаў.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**

— „Неўзабаве", „заплюшчыць".

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**

— Баравыя.

**4. Галоўнае правіла журналіста:**

— Казаць праўду.

**5. Што вас стамляе:**

— Нечаканыя, нахабныя людзі.

**6. Што Вас натхняе:**

— Прырода і добрыя творы іншых аўтараў.

(Апытальнік правялі журналісты рэдакцыі «Шэпты з шафы».

**Міра Лукша** — паэтэса, журналістка, перакладчыца. Аўтарка тома «Жывінкі з глыбінкі» і 16 кніг на беларускай і польскай мовах.

Малюнак Габрысі Вільдовіч

# Дзённік

## Сустрэч «Зоркі» (8)

12 чэрвеня, серада, гадзіна 10:00

Мы паехалі на краязнаўчую экскурсію па Нараўчанскай гміне. Наведалі вадасховішча «Семяноўка». Ужо на месцы спадарыня Аня Франкоўская расказала сумную гісторыю пра пераселеных людзей з залітых вёсак. Спадарыня Аня звязаная з гэтым месцам — гэта родная старонка яе бацькі.

Пазней мы паехалі ў Семяноўку — у царкву св. Юр'я. У гэтай царкве хрысцілі Міру Лукшу. Паэтэса распавяла нам, як аднойчы наведаў іх мітрапаліт Васілій і яна прачытала яму свой верш.

Далей мы наведалі Старое Масева, вёску на мяжы з Беларуссю. Тут мы маглі пабачыць прыгожыя драўляныя дамы з прыгожымі арнаментамі, аканіцамі, разьблёнымі шчытамі хат. Пры адной хатцы стаяў стары журавель пры калодзежы.

Апошняе месца, якое мы наведалі ў гэты дзень, гэта кіркут у Нараўцы. Яўрэйскі могільнік моцна мяне ўразіў. Кіркут размешчаны ў сасновым лесе на невялікай горцы. Ён займае плошчу аднаго квадратнага кіламетра. На ім захаваліся многія мацэвы. Я не магу перастаць думаць пра гэтае месца. Гэта таямнічая, прызабытая частка нашай падляшскай гісторыі.

У пансіянат мы вярнуліся вельмі стомленыя, бо на двары было за трыццаць градусаў цеплыні.

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

**Паўліна Ёдла**, «Бел-News»

## Месяц

Свеціць месяц з-за хмары,
Круглы, таўшчэзны, стары.
Кошка на ганку мяўкае, мурлыча,
Каб залюляў ейных дачок, сыночкаў:
«Ты толькі свеціш, ты песні спявай!»
І я ў той хатцы стаю, спазіраю,
Кожную ноч пры акне размышляю.
Хачу, каб ніколі не згас, не знікаў,
Каб мне дарогу ў жыццё асвятляў.

# Польска-беларуская крыжаванка № 34-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30-2019:**

Тон, караблік, мозг, руж, на, гук, моладзь, абух, казённы, Ас, коцік, Янка, лік, акно, карта, ар. Ева, банк, но, гуска, зрух, ар, гук, кола, маці, возік, лёк, банан, аднак, зычны, конь.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Targ
Ślad
Sukces
Chmura
Żar
Poduszeczka
Śniadanie
Lasek
Skarb
Jodła
Jadło
Mars
Pokój
Nil
Ołowianka
Ktoś nieistotny
Rzeka
Kino
Wir
Lato



Ірэна ЛУКША
*Гайнаўка*




## Паўночны вецер

У асенні вечар прыляцеў
з поўначы вецер.
Усю ноч і палавіну дня
гуляў колькі хацеў і
выў як воўк да поўні.
Дрэвы гнуў і галіны ламаў,
некаторыя з карэннем вырываў.
Лісце рваў і каціў куды хацеў,
падымаў і апускаў як мячыкі.
Пясок каціў у розныя бакі.
На канец хмару прыгнаў
чорную як сажа.
Лівень быў агромны.
Усё прыліпла да зямлі.
Вецер паляцеў далей.
Засвяціла сонца.
Зноў было цёпла і радасна.

## Сонца

Ад вякоў нястомна
на небе стаіць.
Усё ярка свеціць і грэе.
Зямля кружыцца вакол яго.
У суткі наперамен адна
і другая палавіна Зямлі
яго бачыць.
Часта хмарамі вецер
яго засланяе.
Яно ніколі не знікае.

## Вада

Вада вялікі скарб на Зямлі.
Без вады не было б жыцця.
Патрэбная нам у меру.
Празмерная стыхійнасць
варожая ўсім людзям.
Топіць вёскі, гарады і
аграмадныя караблі.
Часта ў вір людзей уцягвае.
Гэта адзін з парадоксаў
на Зямлі.
Што патрэбнае для жыцця,
тое яго забівае.

## Зямля

Зямля маці ўсіх людзей
і глеба па якой ходзім.
Не раз бывае пагрозлівай
у месцах землятрусу.
У расколіны ўкідае што
па дарозе сустракае.
Рухомыя пяскі жыўцом
людзей уцягваюць.
Грозная багна і
размоклая глінянка.
Пясчаныя буры на пустыні
засыпаюць караваны.
На нейкі час стыхія засынае.
Жыццё сваёй каляёй ідзе.

## Начны вобраз

Ішла я ноччу палявой дарогай.
На абочынах раслі кусты і дрэвы.
Насустрач ехалі самаходы.
Глянула ўбок і ўбачыла
вобраз цудоўны.
Між кустамі вісела
вялікая і прыгожая
як карунка павуціна.
Пасярэдзіне сядзеў вялікі
зялёны павук белым крыжам.
Як цудоўная брошка на блузцы.

## Сустрэча з ваўком

Збіраў мужчына грыбы.
Усё далей і далей у лес ішоў.
Каля куста баравіка ўзяў
і ўбачыў ваўка.
Воўк да яго падышоў
і як сабака разам ішоў.
Не да грыбоў ужо было.
Чалавек спяшаўся выйсці з лесу.
Воўк да дарогі яго правёў
і зноў у лес вярнуўся.

## Палявы госць

Нарвала я палявых кветак.
Дома паставіла ў флакон.
Раптам з букета павук
зялёны з белым крыжам
спусціўся на стол.
Быў надта вялікі.
Проста дзіўна што
раней не ўбачыла яго.
Паклала асцярожна
павука на картку са сшытка.
Запішчаў як мыш.
Занесла яго ў поле.
Няхай жыве паміж кветкамі.

## Кароткая радасць

Усе сем'і ў вёсцы жылі
па Божай волі.
Гады маланкай ляцелі.
Хаты іх пусцелі.
Дзеці адной сям'і
пакінулі родны край.
У Амерыцы знайшлі рай.
Пасля смерці мужа жонка
зусім адзінокай стала.
У Амерыку не паляцела.
Роднага куточка кідаць не хацела.
Каб весялей было жыць,
пачала спяваць ды гарэлку піць.
Аднойчы мерку перабрала.
З веласіпедам у адкос упала.
Нагу, руку і рэбры паламала.
Тады плакала і наракала, што
праз дурноту калекай і
пасмешышчам у вёсцы стала.

## Залатая ручка

Вясковы майстар добры быў.
Усё наладзіць мог.
Людзі яго шанавалі,
За работу плацілі і заўсёды
багата частавалі.
Неўзабаве алкаголікам стаў.
Пасля кожнай работы
ледзь дадому трапляў.
Аднойчы ў лес зайшоў.
Праспаўся на імху.
Прабуджэнне страшнае было.
Не ведаў дзе ён.
У адчаі плакаў і крычаў,
што Бог яго пакараў і
чорту на ўласнасць аддаў.
Пачулі плач дрывасекі,
пашкадавалі беднага.
У прычэпцы дадому прывезлі.
Перапрашаў майстар сям'ю.
З той пары гарэлкі не п'е.
У царкоўным хоры спявае.
Суседзям усё ладзіць
толькі за грошы.

## Наркаман

Жыў хлопец якіх шмат.
Вучыўся і марыў аб
лепшым жыцці.
Дзяўчыну шчыра пакахаў.
Усё было як трэба.
Аднойчы дылера сустрэў.
Раскаштаваўся ў яго ласунках.
Хутка касцяком стаў.
Чуў подых смерці.
У адчаі ўсіх пытаў: ці магу я
нарадзіцца яшчэ раз і
быць мудрэйшым?

## Мільянер

Мужчына часта іграў у латарэю.
Марыў, каб выйграць мільён.
Урэшце яму пашанцавала.
Цешыўся як дзіця.
Усім выйгрышам хваліўся.
Сяброў дома частаваў.
Не памятаў, калі заснуў.
Прачнуўся і заплакаў.
У хаце ўбачыў балаган.
Па сябрах і грошах
след прастыў.

## Ашуканствы

Адзін хлопец з ашуканства
шмат гадоў жыў.
Хітра выцягаў ад людзей грошы.
Калі накапіў шмат, рашыў
ажаніцца з прыгажуняй.
Такой пакуль не сустрэў.
Пачаў шукаць у інтэрнэце.
Убачыў здымак і прапаў.
За абяцанку сустрэчы ўсё аддаў.
Больш яе не ўбачыў.
Сам астаўся голы.
Лёгка ўзяў і хутка аддаў.

# Крыж і святая гарабінка





У нас у Баравых не было дзяўчатак маіх аднагодак, — успамінае Аліна Леанеўская, унучка Івана Кастанчука. Яе дзед Іван (пражыў 92 гады) — гэта якраз тая „miejscowa ludność", пра якую кажа Юрка Шыманюк, вядучы сайт siemianowka.pl. Юрка выдае кнігі пра нашу родную зямлю. А другая асоба, пра якую Юрка там успамінае, гэта Алік Мацкевіч, аднагодак Аліны, але яе дзядзька, калі палічыць пакаленні, які пасля камасацыі грунтоў з рук бацькі атрымаў палоску, на якой стаіць крыж. — Я хадзіла да святой гарабінкі і гуляла. Клалася на яе разгалістыя пянькі, чытала, рабіла сабе каралі. Калі прыязджала да нас мая дваюрадная сястра Ёля Пятэлськая з Меляшкоў, дык мы там гулялі разам. Адчувалі мы там сябе як дома, утульна, быццам пад цёплым наглядам дзядуль і бабуль.

— Калі я праходзіла каля гарабінкі і крыжа, стрымлівала дых, — кажу я, старэйшая ўнучка Івана. — Гэта яшчэ да таго, калі ноччу, вяртаючыся са станцыі ў Семяноўцы, пачула шматгалосы дзіцячы плач. Памалілася я тады ўголас. І спакойна пайшла да недалёкага дому. Хаця чула за сабою лёгкія крокі ў паветры. Мама пасмяялася з мяне, калі я расказала пра пачутае. А жанчыны з Баб'яй Гары гаварылі мне, што калі ў 1953 годзе ішлі з забавы ў Семяноўцы, пачуўшы тое роспачнае рыданне так беглі ў сваю вёску, што сандалі пагубілі. Алік нядаўна казаў, што штосьці з-пад таго свяцілася пару месяцаў, але гэта я толькі паставіла... электрычны зніч. Вось і ён быццам бы наводзіў ляк на людзей, што каля святой гарабінкі штосьці страшыць. Восенню 2018 года дамовілася я з Алікам, што трэба будзе паставіць тут новы крыж, згодна з традыцыяй. Наш брат Генік дасць дрэва на яго і трэба будзе выразаць на ім даты — 1842 год, 1922 год і цяперашнюю.

Іван Кастанчук расказваў, што ягоны прадзед Мітрук (Дзмітрый), які ніколі не пакінуў свае зямлі, хоць кругом палалі вёскі і стралялі кулямёты (жыў сто гадоў, памёр пасля 44 года, калі вярнуліся сваякі са спаленых у 1941 годзе фашыстамі пушчанскіх вёсак), казаў яму, што на пастаўленым другім у чарзе крыжы была выразана дата 1842. Першы быў пастаўлены тады, калі заснавалі вёску браты Кандрат і Пракоп, што запісаліся Кастанчукамі, змяніўшы прозвішча з меляшкоўскіх Кастэнчыкаў. Уцяклі яны з Гарадоцкай зямлі, са старажытнай вёскі (якой больш за 500 гадоў), ад войска.

— Спачатку пасяліліся яны на дубе, — успамінаў іх патомак Іван, які не шасціградам трапіў у бежанства аж пад Омск з бацькамі Яначкам і Тэкляй, братам Юстынам і маленькай сястрой Верай (яна пасля сыграе адну з галоўных роляў у «Крэсовай баладзе» Тамары Саланевіч). Такія вось крэсовыя балады розныя, добра, калі іх запісваюць сумленныя, верныя сваёй зямлі людзі, як Тамара Саланевіч. Не ствараюць новых легенд, як узнік крыж «пад ціхай вёсачкай Баравыя». — Калі мы вярнуліся з бежанства ў 1922 годзе, той велічны дуб, якому было гадоў сама меней трыста, яшчэ стаяў, адно сухі быў. Добра бараніў нашу радню ад звера ў пушчы. А мы на месцы старога крыжа, які ўцалеў ад агню і куляў, бо стаяў воддаль ад вёскі, паставілі новы, не чакалі ўжо стагоддзя. А гарабінка расла там з 1742 года, то ўжо ў 1922 годзе было ёй 180 гадоў. А мы пад ёй хавалі памерлых дзетак, няпорных, і пахавалі там яшчэ аднаго чалавека з роду, вельмі паганага, якога імя нават забаранілі нам вымаўляць. Пакойнікаў мы хавалі ў Нараўцы. Наша царква ў Семяноўцы пабудавана як уніяцкая, бо ж тады ўсе мы тут былі ўніятамі, з мусу. І крыж наш, ватыўны, таксама просты. Ватыўныя крыжы такія былі. Царква носіць імя Георгія Перамоўцы, Юр'я па-нашаму. Адны кажуць, што пабудавана яна ў XVIII стагоддзі з фонду тагачаснага ўласніка Семяноўкі Яна Вянгерскага, — Іван вельмі цікавіўся гісторыяй і меў выдатную памяць. — Іншыя пішуць, што ў XVII стагоддзі яе паставілі Масальскія або Карп. Семяноўская парафія была філіяй Ляўкоўскай, а пасля Нараўчанскай. Будынак рамантавалі перад 1854 годам, пэўна ў 1848 годзе, бо так выразана было на крыжы перад царквой. Тады пісалі дату на крыжах. Дык вось той другі наш вясковы крыж меў дату 1842 год пры маёй памяці...

Баравыя, якія цяпер маюць назву Borowe, у «Геаграфічным слоўніку Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін» (1880-1914 гады выданняў), памечаны як Borowiki. А людзей, якія там жылі, усю разрастаючуюся сям'ю Кастанчукоў, упартых і зажытачных, працавітых, звалі «баравікамі». Як людзей з малодшай вёскі — Семенякоўшчыны, таксама «прысёлка Пасек», — мадзьвадзямі (пасяліліся там браты з Малынкі Мядзведзі), бабігорцамі — людзей з падвойнай найменш парусотгадовай вёскі Баб'я-Гара — Мірак Парасчын Зубрыцкі знайшоў тут каменныя тапары, кажучы, з восьмага стагоддзя нашай эры; у Баб'яй-Гары быў солтыс. А вёска Пасекі, нядаўна відная ад Мадзьвадзёў і Баравых, ужо зарасла борам. Тут усе цяпер баравыя.

І крыж, пастаўлены ў 1922 годзе, на магіле, якую парастала ў форме труны шматстволая арабіна, штогод асыпалася чырвоным каралямі. Некаторыя пні — а было іх каля трыццаці, пакрылі шэрыя лішаі, але 277-гадовае дрэва жыло і пладаносіла. А крыжык, месцамі падвязаны дротам, чыпеў на дрэве. Святая гарабінка трымала свой крыж. Як Іванаў дзед Мітрук не баяўся чужой кулі і агню, ставіў дом і садзіў сад у вайну, як пільнаваў дом, як сеяў грэчку ды гадаваў пчол і дачок, рассяляючы іх з пасагам то ў Тарнопаль, то ў Слабодку, то ў Семенякоўшчыну, то ў Бандары, то ў Семяноўку, то гаспадарыў у Баравых. Усё было яму мала зямлі, на якой трэба і «паложана» рабіць. І Іван у яго ўдаўся. І ўнучкі Іванавы, асабліва дзяўчаты, памятаюць той запавет і перадаюць сваім дзецям. Крыжык адводзіў памерлых жыхароў сваёй вёскі, свянціў яго бацюшка Мікалай Шэбелян. І казаў, што гэта не ёсць каталіцкі крыж. І яму пра гэта казаў Іван.

Я дзесяць гадоў таму крыжу і старэйшай за яго арабіне зрабіла здымкі. Як заўсёды стаіўшы дыханне. Шматствольнае дрэва распасцірала пакрытае гронкамі голле на вышыні недзе трэцяга паверха. А крыжык, счарнелы, шчарбаты, утравелы, падтрымліваўся галінамі сваёй жывой сястры. Юрка, якога тата Янка, працаваўшы дзесяцігоддзямі лістаношам, які па пятніцах вёз «Ніву» па вёсках, спыняў тут свой ровар і жагнаўся. Яго талковы і вучоны сын Юрка стварыў інтэрнэт-старонку пра наша старонне — як жа зменена. Недалёка ад баравіцкага крыжа расплылося возера. Пpыляцелі чужыя птушкі, нашы паляцелі прэч на свеце. І мы ўжо пасівелі самі, сагнуліся. Зарастае нас лес, які абступіў і крыж. Высахлі Буяўка і Калонка, прытокі Нарвы. Па рацэ Нараўцы праходзіла мяжа паміж Вялікім Княствам і Каронай — паўтарае як мантру сваім турыстам бабігорац Мірак Зубрыцкі. І тая Нараўка ледзь чыпіць, усё ж — плыве. Мірак Парасчын (унук вядомай вядунні) знаходзіць у зямлі княжацкія грошыкі і каменныя тапары, паказвае дакументы дзедаўскія па-беларуску і спрачаецца з Юркам Шыманюком.

Напісаў Юрка на сваёй старонцы. „W odległości ok. 300 m od Siemieniakowszczyzny znajduje się spokojna miejscowość Borowyje, a w niewielkiej odległości od niej, pod lasem, w zaciszu i cieniu usychającej jarzębiny stoi zapomniany przydrożny katolicki krzyż. Z przekazów miejscowej ludności wynika, że jest to krzyż upamiętniający w tym miejscu śmierć lub pochówek księdza katolickiego, który został tu zabity w czasie któregoś z powstań: styczniowego lub listopadowego. Na dzień dzisiejszy nie jesteśmy w stanie ustalić co to za ksiądz i którego powstania dotyczy".

Як то кажуць — чуў звон... Была бітва пад Баровым, але іншым. Гібее вёсачка, якой каторы раз змянілі імя. «Мейсцова людносьць» мала што памятае, але вельмі злосная па ўнукаў нашых дзядоў, якія памятаюць.

— Што ты кажаш? Гэта ваш сямейны вясковы крыж? Лябедзкі ж напісаў, што тут ксёндз пахаваны, які паклаў галаву ў паўстанні нейкім! Ён жа ж разбіраецца ў гісторыі, той Лябедзкі. У Нараўцы рабіў, цяпер у ІПНе працуе.

Піша наш калега Юрка: „Na początku 2019 roku marnie się ten krzyż prezentował i najprawdopodobniej za kilkanaście lat już by go nie było. Znalazł się jednak człowiek, który postanowił dać mu drugie życie — Roman Zasim. 6 marca br. Roman, wraz ze Sławkiem Zasimem, zrobili kawał dobrej roboty i odnowili ten krzyż dając mu szansę na kolejne wiele lat pamięci o nim. Nie odbyłoby się to bez zgody właściciela działki, na której ten krzyż stoi — Aleksandra Mackiewicza, za co należą się jemu serdeczne podziękowania".

Быў час, калі ў Баравых не было чатырох асоб, а дваццаць. Перад пацыфікацыяй жылі тут чатыры сям'і. 22 верасня 1941 года раніцай асаду атачылі жандары з Нараўкі. Жыхары мелі на працягу гадзіны сабрацца да таго, каб пакінуць сваю вёску, выдзертую пушчы. Дазволілі ім узяць падручны багаж і ежы столькі, каб змясціць на фурманку. Сям'і дазволілі ўзяць адну карову і каня. Знушчаліся над Кастанчукамі і Лясотамі, Мацкевічамі, Медзвядзямі, якія сюды прыйшлі ў прымы, білі іх прыкладамі і калкамі. Людзі пераехалі ў Раманава да сваякоў Казарэзаў і Цынчыкаў ды ў Семяноўку і Ялоўку. Рэшту багатага дабытку баравікоў-ліцьвіноў зрабавалі. Падпалілі дамы і прыгатаваны пушчанскі матэрыял на новыя хаты, падпалілі клуні поўныя збожжа, спелыя сады. А як жа стралялі снарады, якія сабраў у клуні Мітрук! Амаль стагадовы старэча глядзеў на палаючае дабро, нажытае пакаленнямі, і плакаў. І зноў не пакінуў сваёй вёскі. І пайшоў пад святую гарабінку ў чырвоных пацерках, і пад крыж, і маліўся крыкам. І застаўся адчакаць наступную вайну. Яны ж, Кастанчукі-баравікі вернуцца!

Абдымала я апошні ствол святой гарабінкі і плакала, прасіла прабачэння, што яе не ўпільнавала. Сваю драўляную жывую прабабулю, якой амаль 280 гадоў. З сумнымі вачыма глядзела Аліна на крыжык падняты ў паветра, але ж на моцным забетанаваным падмурку ды і ў жалезнай стапе. І плітку яму паклалі, пасля хтосьці паставіць сюды зьнічы і штучныя кветкі. Па баках на голым пяску парубаныя ствалы і вялікая горба веццю. У форме труны стаялі пянькі, побач зеўрала дзірка, дзе раней мясціўся крыж.

Прыехала я 12 жніўня, з бутэлькай святой вадзіцы з Пачаева. Прывезла яе мне матушка Людміла Клімук, калі мяне распаролі і адрэзалі кавалак цела. Таксама хацелі добра — заразу, выжыву, колькі Бог мне даў. Бацюшкі Мікалая не было, каб святой рукой яшчэ раз пасвянціў наша святое месца. Царква ў Семяноўцы, раней расхільваючая свае брамы перад вернікамі, звычайна цяпер закрыта каваным жалезам. Сарвала я чырвоныя вяхоткі шчаўю, умакнула ў пачаеўскую ваду сваё «крапіла»... «Отча наш...» У імя Айца, і Сына, і Святога Духа...». Разам з вадой сыпаліся мае слёзы на крыж, і на новыя парасткі трыццаці свежых, зялёных пянькоў святой гарабінкі. Сягалі яны мне ўжо па пояс, даставалі да маіх знявечаных грудзей!

**Міра ЛУКША**

**Здымкі Міры Лукшы і Юркі Раецкага**

# Паездка ў Белавежжа

Так склалася, што ўсе мае дзеці і ўнукі былі ў мяне ў гасцях. Рашылі мы наведаць слаўную Белавежу і яе цудоўнае наваколле — Белавежскую пушчу і частку запаведніка жывой прыроды. У суботу 20 ліпеня мы з жонкай — ужо мы не гаспадарым — паехалі самаходам дачкі ў гэтую курортную мясціну. Ужо перад самой Гайнаўкай пачынаецца славутая Белавежскай пушча. Калі мы даехалі да шашы Гайнаўка — Белавежа: адлегласць 17 кіламетраў, паехалі па гладкай асфальтоўцы, на якой я летам 1962 года працаваў пры асфальце і дарожных работах. І гэта былі мае апошнія сустрэчы з Белавежай, бо раней у 1958 годзе быў я там на школьнай экскурсіі (мы тады кончылі сёмы клас пачатковай школы) — мы тады наведалі Белавежскую пушчу і яе прыродазнаўчы запаведнік. І гэта ўсё. Праўда, бачылі зуброў. І цяпер едучы праз столькі гадоў па знаёмай дарозе і мясцінах, маё ўражанне надалей глыбокае і мае свой сэнс. Бо пушча надалей прыгожая і маляўнічая, як у казцы. Хаця, азіраючыся па абодвух баках дарогі, бачыш сухія зрэзаныя елкі і іншыя дрэвы, і гэта работа нікчэмнага яловага караеда. Таксама тырчаць густа і нязрэзаныя сухія елкі. А ці не варта прыбраць іх, і адны, і другія? Што ж. Я не спецыяліст у гэтай галіне, бо для гэтага ёсць вучоныя людзі. Дык няхай яны разбіраюцца, што і як зрабіць. А тут можна думаць па-рознаму.

Даехалі мы да Белавежы. Гэта ўжо не тая вёска-мястэчка, якая была ў маёй памяці. Яна цяпер сапраўды іншая, бо навокал парадак і прыгожыя дамы, домікі, пераважна драўляныя, акуратныя агароджы і зелень навокал. І гэта сведчыць аб дабрабыце і парадку яе жыхароў. І падумаў я: «Вялікае дзякуй Богу, што Белавежа, а таксама мы, усе жыхары Падляшша, не апынуліся на тэрыторыі Савецкай Беларусі (а мала да гэтага бракавала). Бо тады быў бы тут цалкам іншы, савецкі парадак — бяда і гора і не адзінкі з нас былі б суседзямі белых мядзведзяў недзе на далёкай Поўначы. І тут была б чутна толькі расейшчына». Але, на шчасце, усё гэта нас абмінула... І вось едзем па галоўнай вуліцы і на левым баку стаіць нейкія збудаванні без сцен. А гэта памятка па колішнім славутым царскім палацы. Гітлераўцы, калі ўцякалі ад саветаў летам 1944 года, яго ўзарвалі, але не цалкам. І можна было яго адрамантаваць, і то смела. Але польскім камуністам, як і савецкім — што царскае і сам цар — вораг нумар адзін і трэба было гэта знішчаць дашчэнту. А калі б тут стаяў польскі каралеўскі палац і таксама нароўні знішчаны, як той царскі, дык нават польскія камуністы яго б адрамантавалі як залатую іголку ці карону. А так? А ж цар Расіі, у іх меркаванні, у тым ліку апошні Мікалай II Раманаў — дык «самы крывавы быў». Але гэта хлусня і абман, бо ў сапраўднасці цар Мікалай II быў добрым і спагадлівым чалавекам, што маглі пацвердзіць многія жыхары Белавежы, якія памяталі ягоныя наведванні Белавежскай пушчы. Хаця гэтых людзей няма сярод жывых, але засталіся іх успаміны. Пра тыя ўспаміны і Белавежу пісаў і надалей піша плённы і сумленны гісторык, пісьменнік і карэспандэнт Пётр Байко. І ён піша праўду! А тое, што цар Мікалай II быў добрым і спагадлівым чалавекам — гэта часткова стала прычынай яго і ягонай сям'і страшнай смерці. А ён жа і патрыёт Расіі!..

Ну даехалі мы да самага запаведніка і выйшлі з самахода. Падняліся на ліфце на высокую вежу — адтуль красуецца панарама зялёнай, прыгожай Белавежскай пушчы — аж па самы гарызонт і то з усіх бакоў — зусім як у раі. І тут іншы і цудоўны свет — відаць лугі, падрэчкі ў гэтай зелені. Але трэба спускацца ўніз. Пайшлі мы ў Прыродазнаўчы музей. За білеты трохі заплацілі. Нам далі навушнікі з камп'ютарамі. Наведалі мы ўсе стэнды (выдзеленыя часткі) флоры і фаўны Белавежскай пушчы. Перад кожнай часткай жанчына-навуковец тлумачыла нам праз камп'ютар і навушнікі тое, што мы бачым сярод экспанатаў. Гэта была цікавая лекцыя. І гэта не забываецца ў нашай памяці. Усё мы належна агледзелі і пайшлі ў напрамку прыгожай мураванай царквы. Гэты храм — цуд колішняга царскага будаўніцтва і дойлідства, і рамантызму. Царква стаіць на высокім каменным вычасаным фундаменце. І нідзе ані адной трэшчыны. І так дагледжана! Тут ад многіх гадоў служыць настаяцель Сяргей Корх, родам з недалёкага Вітава. І хаця трубілі і сёння трубяць, што царская Расія была адсталай краінай, тое, што рабіла, рабіла моцна, прыгожа і на многія гады. І хай бальшавікі схаваюцца, як мыш пад мятлою, бо іх будаўніцтва нічога не вартае ў параўнанні з царскім. А чыгунку і розныя вакзалы Расія ставіла таксама моцна. Яна ўжо станавілася тэхнічна на ногі і ўжо даганяла тэхнічна і прамыслова высокаразвітыя краіны такія як Германія, Англія, Францыя... І калі б не Першая сусветная вайна і бальшавіцкі пераварот — дык з часам перагнала б нават пры Керанскім гэтыя краіны і сёння была б першай Амерыкай. І ўсё будавала і рабіла сумленна і не на чалавечых касцях, як чынілі бальшавікі. І шчасце, што царква ў Белавежы не папала ў лапы бальшавікоў, бо тыя знішчылі б яе, як у сябе чынілі як невукі і апантанцы...

І паехалі мы дамоў у прыўзнятым настроі, з верай і надзеяй, што Белавежская пушча не прападзе, як і наша беларуская мова.

Мікалай ПАНФІЛЮК



Уменне прыгожа прамаўляць — гэта, вядома, мастацтва, валодаць якім дадзена далёка не кожнаму. Праўда, калі хтосьці ім не валодае ад нараджэння, у яго ёсць магчымасць навучыцца. Магчымасць навучыцца рыторыцы ў старыя часы была дасяжная толькі асобам прывілеяванага слою грамадства. Зараз гэту навуку могуць спасцігнуць тыя, хто мае жаданне і... грошы. Але калі ходзіць пра беларусаў, то тут, натуральна, не абысціся без адной акалічнасці. У Польшчы яны хутчэй пачнуць вучыцца прыгожа прамаўляць па-польску, а ў Беларусі — па-руску. Тым не менш у беларускай краіне ёсць магчымасць навучыцца рыторыцы па-беларуску, і гэтую магчымасць прапануе філолаг і прадпрымальнік Ягор Прыстаўка.

Сайт навукоўца і бізнесмена пад назвай „Курс аратарскага мастацтва" месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://ritor.by.** Пабудаваны ён паводле сучасных тэндэнцый сайтабудаўніцтва, дзе амаль уся інфармацыя месціцца на галоўнай старонцы, якую толькі трэба „пракручваць" камп'ютарнай мышкай зверху ўніз.

„Зрабіце сваё маўленне ўпэўненым і прыгожым!" — заклікае Ягор Прыстаўка словамі, якія напісаны на яго рухомай вывеве. Пры гэтым ён тлумачыць, што яго курс аратарскага маўлення будзе патрэбны, калі вам даводзіцца выступаць публічна, перад выступам вы адчуваеце нязпэўнасць, вам бывае цяжка данесці сваю думку, вам складана ў зносінах з людзьмі.

Далей уніз па сайце ідзе расповед пра самога Прыстаўку. Паводле пададзенай там інфармацыі заснавальнік „Школы рыторыкі" з'яўляецца кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам кафедры класічнай філалогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён вывучае рыторыку і тэорыю камунікацыі больш за дзесяць гадоў, з'яўляецца аўтарам манаграфіі па гісторыі рыторыкі. Дарэчы, там жа ёсць гіперспасылка на гэтую манаграфію, дакладная назва якой — „Лацінскі трактат Мацея Казіміра Сарбеўскага «Аб вастрыні і досціпе» (1619/1623 гг.) і яго месца ў гісторыі ведаў аб мове і камунікацыі".

Паводле анатацыі, у манаграфіі раскрыта сувязь катэгорый трактата («вастрыня», «досціп», «гульня слоў» і інш.) з паняццямі лінгвістычнай паэтыкі і стылістыкі. А адрасавана праца, акрамя спецыялістаў-лінгвістаў, таксама ўсім, хто цікавіцца рыторыкай, тэорыяй камічнага, гісторыяй нацыянальнай адукацыі. Тым больш, што рытарычны рэнесанс — адраджэнне цікавасці да антычнай і сярэднявечнай рыторыкі — стаў характэрнай з'явай еўрапейскага інтэлектуальнага жыцця другой паловы XX стагоддзя, сцвярджае ў сваёй манаграфіі Ягор Прыстаўка. Пры гэтым ён нагадвае, што рыторыка Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца часткай еўрапейскай рытарычнай традыцыі, якая зарадзілася ў старажытнагрэчаскіх полісах у VI ст. да н.э., дасягнула вяршыні ў Старажытным Рыме.

Праўда, не абышлося на сайце без хібаў. Напрыклад, размешчаныя ў самым версе выйсці на водгукі і інфармацыю аб коштах не працуюць, і клікаць на іх сэнсу няма. У той жа час і з водгукамі, і з коштамі можна пазнаёміцца ніжэй на галоўнай старонцы. Таксама нічога на сайце не распавядаецца пра мову навучання. І толькі з сайта-каталога беларускамоўнага бізнесу „Сваё" можна даведацца, што на „Курсе аратарскага майстэрства" ёсць групы па-руску і па-беларуску, а Ягор карыстаецца беларускай моваю ў жыцці, а не толькі на працы.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

## 145 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Беняшэвіча

Беларускі гісторык і археограф Уладзімір Беняшэвіч нарадзіўся 9 (21) жніўня 1874 г. у мястэчку Друя на Браслаўшчыне. Паходзіў з сям'і судовага прыстава. Лёс гэтага навукоўца і яго блізкіх быў вельмі трагічным.

У 1893 г. Беняшэвіч з залатым медалём скончыў Першую Віленскую гімназію, а ў 1897 г. з дыпломам першай ступені — юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта слухаў лекцыі ў Нямеччыне — у Берлінскім, Лейпцыгскім, Гейдэльбергскім універсітэтах. Вывучаў філасофію, гісторыю і права, найперш грэчаскія рукапісы юрыдычнага характару, армянскія, грузінскія летапісы.

У 1905 г. атрымаў ступень магістра царкоўнага права, тэма дысертацыі — „Канонический сборник XIV титулов со второй четверти VII века до 883 года. К древнейшей истории источников права греко-восточной церкви". Праца была адзначана навуковай прэміяй імя графа Уварава.

У 1908-1913 гг. рэдагаваў часопіс „Обозрение трудов по славяноведению". Навуковыя здабыткі Беняшэвіча адзначаны званнямі ганаровага доктара права Афінскага нацыянальнага ўніверсітэта, члена-карэспандэнта Баварскай акадэміі навук у Мюнхене, Прускай АН у Берліне, Страсбургскай АН. У 1914 г. стаў доктарам царкоўнага права. Беняшэвіч быў вельмі адукаваным чалавекам у галіне царкоўнага права, які шмат працаваў з крыніцамі, выдатным навукоўцам-паліглотам — ведаў англійскую, французскую, нямецкую, італьянскую, польскую, чэшскую, балгарскую, сербскую, навагрэцкую, старажытнагрэцкую, лацінскую, сірыйскую, старажытнагрузінскую, старажытнаармянскую мовы.

У 1928 г. вылучаны на пасаду акадэміка АН СССР. Стаў, як і многія іншыя навукоўцы-інтэлігенты, ахвярай сталінскага рэжыму. Ужо 1929 г. прынёс бяду — Беняшэвіча арыштавалі. Першы раз засуджаны па абсурдным абвінавачанні ў шпіянажы і контррэвалюцыйнай дзейнасці да трох гадоў турмы. Другі раз — 8 жніўня 1931 г. на пяць гадоў савецкага канцлагера. Дзякуючы хадайніцтву Альберта Эйнштэйна, Фрыцьёфа Нансена і Уладзіміра Бонч-Бруевіча вызвалены ў 1933 г.

У 1930 г. арыштавалі і жонку — Амату (Людмілу) Зялінскую. Яна была засуджана да пяці гадоў пазбаўлення волі, тры гады была ў зняволенні ў Бебалтлагу, потым на розных працах. У апошнія гады свайго жыцця (пражыла да 1967 года) склала бібліяграфію прац свайго мужа.

За „шпіёнскую дзейнасць" 27 лістапада 1937 г. Уладзіміра Беняшэвіча зноў арыштавалі. Яго расстралялі ў студзені 1938 г. на Левашоўскіх могілках паблізу Ленінграда. Таксама былі арыштаваны і расстраляны брат Дзмітрый і два сыны-блізнюкі Беняшэвіча. За жыццё славутага, вядомага ва ўсім свеце гісторыка зноў прасіў Альберт Эйнштэйн. Ён пісаў народнаму камісару СССР Анатолю Луначарскаму: „Нядаўна вядомы навуковец Уладзімір Беняшэвіч з Ленінграда быў засуджаны да высылкі. Гэтага пакарання згаданы навуковец, на думку нашых навукоўцаў, знаёмых з акалічнасцямі гэтай справы, не заслужыў. Мясцовая Акадэмія навук, якая цэніць сп. Беняшэвіча па чыста навуковых матывах, ужо хадайнічала наконт яго памілавання, але безвынікова, таму я зноў спрабую дабіцца яго памілавання неафіцыйным шляхам. Гэта няшчасце напаткала сп. Беняшэвіча таму, што ён у мэтах атрымання навуковага матэрыялу падтрымліваў стасункі з адным прэлатам у Ватыкане". Але нават зварот геніяльнага фізіка на гэты раз не дапамог.

Афіцыйна Уладзімір Беняшэвіч быў рэабілітаваны ў 1958 годзе.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Муралі ў Нараўчанскай гміне

Нядаўна адны з першых у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета муралі намалявалі ў Нараўцы (на бакавой сцяне тамашняга Гміннага асяродка культуры) і ў Старым Ляўкове. На фотаздымку мураль на сцяне ГАК у Нараўцы.

Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА




# На ўзгорку Петрапаўлаўскай царквы

Гэтая царква калісьці ў старыну стаяла тут, у Дубічах-Царкоўных, каля ўрочышча Бахматы і недзе ў палове XVIII стагоддзя згарэла. І ікона Пакроў Прасвятой Дзевы Марыі з ветрам прыляцела і ўпала там, дзе стаіць другая па чарзе, бо першая згарэла на пачатку Другой сусветнай вайны ў 1941 годзе — Пакроўская царква. Тут месца прыгожае, пры канцы нашай вёскі і на скрыжаванні дарог Дубічы — Орля; каля самога храма налева дарога ў вёску Грабавец. Тут блізка рэчка Арлянка, леваруч калі ехаць у Грабавец. Хаця легенда гаворыць, што царква каля Бахматаў правалілася ў нетры зямлі па прычыне нейкіх грахоў прыхаджан; але легенда заўсёды ёсць легендай, а праўда — праўдай. І на гэтым узгорку стаіць памятны крыж у гонар першага храма. Гэты каменны крыж пастаўлены на пачатку XX стагоддзя. І калі яшчэ на Бахматах не было вадасховішча, дык гэты крыж быў нейкім арыенцірам і з дарогі — Камянецкага гасцінца, быў здалёк прыкметны. Але калі было зроблена слаўнае вадасховішча Бахматы, кругом стала ўсё мяняцца. Розныя варшавякі з абодвух бакоў гасцінца пабудавалі домікі і катэджы, і гэты невялікі гістарычны комплекс — узгорак з крыжам — амаль знік з вачэй. Здаецца, быццам узгорак паменшаў, усё зарасло маладым лесам і хмызнякамі... Пра гэта я пісаў у сваіх успамінах амаль тры гады таму.

А вось нядаўна бацюшка Славамір Аўксеціюк і царкоўная рада тут зрабілі грунтоўны парадак. Узгорак з крыжам ачысцілі з лішніх дрэў і кустоў, а там, дзе крыж, паставілі прыгожую каплічку, і гэты ўзгорак выглядае так велічна як калісьці. Што гэта значыць? Бацюшка Славамір належны гаспадар і верны слуга Божы.

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Беластоцкая пілігрымка

13 жніўня выйшла XXXIV пілігрымка на Святую Гару Грабарку. У паломніцтве ўдзельнічае каля двухсот чалавек. Перад выхадам з-пад царквы св. Ілы паломнікі ўдзельнічалі ў святой літургіі, а епіскап Іакаў пасвяціў крыжы. Арганізатарам пілігрымкі з'яўляецца Брацтва праваслаўнай моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі. Сёлета пілігрымка расцягнулася на адзін дзень больш, а гэта па прычыне дарожных работ на шляху ў Бельск-Падляшскі ды паміж Заблудавам і Гайнаўкай. Паломнікі пройдуць 130 кіламетраў. Маршрут пралягаў з Беластока ў Міхалова, каля трыццаці пяці кіламетраў, дзе ў мясцовай царкве служылася літургія. Пасля адпачынку паломнікі пайшлі ў Нарву — 30 км. Затым маршрут праходзіў праз Ласінку, Новаберазова і Дубічы-Царкоўныя. Тут адпачынак і начлег. З Дубічаў-Царкоўных паломнікі пайшлі праз Вярсток у Чаромху, дзе чакаў іх начлег з адпачынкам і набажэнства ў царкве. Апошнія 50 кіламетраў паломнікі прайшлі праз Зубачы (субота) і пасля кароткага адпачынку на шляху маршрут закончылі на Святой Гары Грабарка 18 жніўня. Пілігрымку забяспечвае аўтамабіль хуткай дапамогі з лекарам і санітаркай. У падарожжы трапляюцца страта прытомнасці ці скалечанне ног і тады неабходная лекарская дапамога. Нягледзячы на гэта шматлікія паломнікі лічацца «ветэранамі». Да такіх можна залічыць Анджэя Жамойду, сябру маёй дачкі Аліны. Як ёй сказаў пры сустрэчы, сёлета ўдзельнічае ў паломніцтве дваццаць пяты раз. Прыпамінаю, як гасцяваў у нашай хаце ў час адпачынку пілігрымкі ў Кузаве. Паломнікаў сардэчна вітаюць жыхары вёсак, праз якія праходзяць. Забяспечваюць іх напіткамі, бутэрбродамі, спагадаюць добрым словам для вытрымкі. І гэта лічыцца салідарнасць для духа.

Уладзімір СІДАРУК

**СПАЧУВАННІ**

Шчырыя словы спачування спадарыні **Аксане ПРУС** і Яе сям'і з прычыны напаткаўшага Яе гора – смерці бацькі.

**Аб'яднанне «АБ-БА»**

# Адгаданка

1. напрыклад, марафон, 2. адзінка бібліятэчнага збору, 3. агародная травяністая расліна з ядомым лісцем (*Spinacia oleracea*), 4. пара для цела, 5. беларуская нацыянальная ежа родам з Амерыкі, 6. расліна для бігасу, 7. узнагарода прызёру спартыўнага спаборніцтва, 8. выспа з Джакартай, 9. кандытарскі выраб з какавы, 10. галоўны башкірскі горад.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная прымаўка.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | | | | | 3 | |
| | | | | 4 | | 5 | | | |
| | | | | | 6 | | | | |
| | | 7 | | | | | | 8 | |
| | | | | | 9 | 10 | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Бераг, амфітэатр, бізнес, дына, Об, дым, муза, тона, цаля, легенда, жнец, барыкада, цэзій.

Рашэнне: **Абы добра гадзіна, то найдзецца радзіна**.

# 25.08 — 31.08

**(22.03. — 20.04.)** 25-31.08. можаш павіншаваць сабе адвагі і рашучасці. Бараны з доўгім стажам пераканаюцца, што ў нічым не ўступаюць маладым і дынамічным. У пастаянных сувязях паляпшэнне. Добры час на негацыяцыі і ўсталёўванне супольных стратэгій. Будзь асцярожны пры экстрэмальных дзеяннях.

**(21.04. — 21.05.)** 24-28.08. можаш многа выйграць. 28-31.08. час спрыяе развіванню пасій. Зараблянне грошай. 25-27.08. разглядайся па знаёмых. Выйдзеш да людзей, будзеш патрэбны і нават незаменны, наладзіш новыя знаёмствы. Можа аплаціцца рызыка. Не спалучай сяброўства з грашыма. Пазбягай зайздрасці, будзь больш даверлівым.

**(22.05. — 22.06.)** Дагаворышся з кожным. Будзеш у добрай кампаніі. Спазнаеш смак кахання. Ды ты не прытварайся ў нічым! Не загарайся да рэчаў, да якіх ты не надаешся. Час аграмадных змен, але хопіць табе на іх энергіі. Калі пачынаеш новыя мерапрыемствы, ідзі маленькімі крокамі.

**(23.06. — 23.07.)** Вялікая доза пазітыўных уражанняў. Мілая неспадзяванка ў пачуццях 25-28.08. Маладзік у Дзеве 29-31.08. паможа табе з поспехам правесці змены, да якіх прымерваешся. Прапановы 25-31.08. могуць цябе задзівіць, але іх не адкідвай, хоць могуць здацца табе «не з тваёй казкі»; паспрабуй. Зважай на свой пазваночнік і калені! Не перанатужвайся на працы.

**(24.07. — 23.08.)** Спадзявайся ўсмешак фартуны! Перад вынікамі магчымых памылак выратуе цябе Юпітар. Дома шмат шчаслівых здарэнняў. Не слухай парад аб простых прыёмах. Не адмаўляйся ад прыемнасцей. Пільнуйся ад кантузій, глядзі пад ногі.

**(24.08. — 23.09.)** 25-27.08. горача ў спальні і не толькі. 29-31.08. паможаш камусь, заслужыш яго ўдзячнасць і дапамогу ў будучыні. Можаш ініцыяваць мерапрыемствы, якія будуць мець вялікае значэнне для будучыні. Пасля 29.08. ніхто не пасмее цябе пакрыўдзіць.

**(24.09. — 23.10.)** 25-27.08. нявінны флірт можа перамяніцца ў палымянае пачуццё. 25-28.08. пазнаёмішся з тэхнічнымі навінкамі ў прафесіі; яны вельмі памогуць у тваёй працы. 25-31.08. хтосьці можа быць зайздросны за твае поспехі, таму не давярай тым, хто табе гучна пляскае ў ладкі. Зважай на словы, не крытыкуй кіраўніцтва. Не адмаўляй сабе прыемнасцей.

**(24.10. — 22.11.)** 25-28.08. палепшацца твае адносіны дома і на працы. Будзеш чараваць на ўсю катушку, але 25-27.08. можаш быць крыху стомленым шалам сярод аматараў і схочаш пастаяннай сувязі. 25-31.08. перакрочыш мяжу ўласных магчымасцей! Пільнуйся ад вос. Дбай аб суставы, вушы, вочы.

**(23.11. — 22.12.)** 29-31.08. атрымаеш доўгачаканую вестку. Ахвотна спаткаешся з кімсьці, хто здаўна ходзіць за табою (прыхільна глянеш нават на кагосьці, хто не вельмі табе падабаецца!). Рамантычны настрой. Шмат нагод да сустрэч з сябрамі. На большую імпрэзу ў сябе рашыся пасля 28.08.

**(23.12. — 20.01.)** Зафундуй сабе новую апранаху ці прычоску. 25-27.08. можаш раптам закахацца; для гэтай любові будзеш гатовы зрабіць усё. Запал, энергія, новыя задумы прынясуць табе поспех 25-31.08. Наедзе да цябе шмат гасцей. Твая праца будзе дацэнена. Урэшце прыйдуць чаканыя грошы. 25-28.08. можаш «упальваць» нешта танней у краме ці на аўкцыёне. Маеш аграмадны ўплыў на людзей, будзеш справядлівы і сумленны.

**(21.01. — 19.02.)** Поспехі на ўсіх палях. 25-31.08. удасца табе змяніць штосьці, што здавалася быць немагчымым для кранання з месца. Пазбудзешся барахла, прытым знойдзеш штосьці згубленае. Дбай аб тое, каб хапіла табе вады і пільнуйся ад кепскага надвор'я. Калі ты народжаны ў III дэкадзе, будзь вельмі асцярожны ў гарах. Усе ранкі адразу дэзінфекуй. І не пераборшчвай з вітамінным прэпаратамі, калі ўсюды столькі свежай гароднінны і садавіны!

**(20.02. — 21.03.)** 25-31.08. пераможаш усе праціўнасці і канкурэнцыю. 28-31.08. набярэш самаўпэўненасці адноса таго, куды ідзеш. 25-27.08. цудоўна ў пары. Сустрэча 24-28.08. можа адмяніць тваё жыццё. Пасля 29.08. магчымасць добрага выезду за мяжу. Зблізішся да старэйшай радні, яны памогуць вырашыць твае праблемы. На працы атрымаеш доказы прызнання і ўзнагароду (калі ты з II дэкады, павышэнне можа вязацца з многімі адмаўленнямі, напэўна ці варта так перанатужвацца для люксу). Дамовы негацыюй, не мусіш пагаджацца на ўсе ўмовы. Інтуіцыя цябе не пакіне. 25-31.08. падумай пра ўласную дзейнасць, хаця рызыка немалая, разваж, ці кідаца ў глыбокую ваду, можа спалучы новы зарабок з цяперашнім. Лепшая форма.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Пра мёд і дэмаграфію

Выпадкова даведаўся, што ў свята Макавеяў у капліцы, што каля Храбал, будзе асвячацца мёд. Ну, нагода паўдзельнічаць ва ўрачыстасці ў царкоўцы, што прыхавалася ў лесе недалёка дарогі з Храбал у Плютычы.

У канікулярны час транспарт таксама мае невялічкія канікулы, бо не трэба вазіць моладзь у школы. Таму аўтобусы па любой трасе ездзяць не надта часта, у тым ліку і між Беластокам і Бельскам. Гадзіны пачатку набажэнства я не ведаў, але нацэліўся на дзявятую. Бо так папросту зручна прыходзілася па раскладах язды публічнага транспарту.

Злез я з аўтобуса на прыпынку ў Храбалах і каб было хутчэй, рашыў падацца да капліцы не вымашчанай асфальтам абхадной дарогай, але шмыгануць напрасткі. Калісь, можа з дзесяць, а можа і з дваццаць гадоў таму, прайшоўся я такім чынам, але ад каплічкі ў вёску. І той маршрут, па лесе і па лясной абочыне, здаўся мне даволі выгадным. І цяпер я пашпарыў туды.

Народная мудрасць вяшчае, што хто дарогу прастуе, той дома не начуе. Начлег тут толькі для гладкасказання, але пайшлося мне зусім не так, як спадзяваўся. Неўзабаве за вёскай прыйшлося амаль мацаць дарожкі, па якіх вандруе лясное насельніцтва. Па буйнеючай у балоце роўнай з маім гарызонтам траве ўдалося мне дабрацца да лесу, а там яшчэ большая крапіва. Ну, проста запаведнік прыроды, якога чалавечыя рукі даўно не кранал. Зачапіўся я за нейкае схаванае ў такой крапіве голле і паляцеў носам у той гушчар. Але толькі адзін раз. Неяк удалося мне выбрацца на больш сухое месца, бліжэй раней згаданай дарогі ў Плютычы. Абышоў я Храбалы, пазбіраўшы ў абутак і галошы ваду з мокрых траў, з прыгодамі.

Да капліцы прыйшоў я, як гэта гаворыцца — на разбор шапак, на завяршэнне набажэнства. Мёду з сабою я не ўзяў, і добра, бо быў бы мне ён толькі баластам у змаганні з напорыстай лясной расліннасцю. Асноўная служба адбывалася перад царкоўкай, а само асвячэнне ўсярэдзіне на канец урачыстасці. Народу сабралася прыстойная ў адпаведнасці да цяперашняй вясковай дэмаграфіі колькасць — каля дваццаці асоб; былі ўсе пакаленні: ад найстарэйшых да наймалодшых.

З чаго ўзялося асвячэнне мёду? Пачалося ўсё ў Канстанцінопалі ў ІХ стагоддзі, сама ў разгар лета, калі людзям сталі дакучаць розныя хваробы. Тады тамашнія ўлады рашылі выносіць часціцы захаванага ў адной з тамашніх цэркваў Крыжа Гасподняга дзеля цудадзейнага прадухілення ад эпідэмій і ўстанавілі свята ў гонар дрэў Крыжа Гасподняга. З часам свята тое стала ўзбагачацца новымі абрадамі, у ліку якіх апынулася і асвячэнне мёду, якога новы плён пачыналі збіраць пчолкі ў той акурат час.

У той жа дзень прынята таксама асвячаць мак, але з псеўдаэтымалагічнай прычыны. Менавіта ў гэты дзень адзначаецца памяць старазапаветных мучанікаў — сямі братоў Макавеяў, іх мацеры Саламаніі і настаўніка Елізара. Сірыйскі цар Антыёх задумаў элінізаваць сваё царства і навязаць сваім падуладным адну рэлігію — старажытнагрэчаскую, у рамках якой загадаў пакланяцца грэчаскім багам. А Макавеі не прынялі гэтага і іх замучылі, а памяць пра гэта была ўведзена ў пазнейшы хрысціянскі каляндар.

Капліца ў Храбалах прысвечана ў галоўным Іаану Багаслову, але магчыма, што ў ліку яе заступнікаў і браты Макавеі. Бо ж, здаецца мне, іх ушанаванне нейк глыбакавата ў нас укаранілася. Вось у шчырым полі паміж Белай, Вялікімі Грыневічамі і Арлянкай стаіць часоўня ў іх гонар, і паміж Курашавам і Ляневам, і ў Новаберазове, і ў Крыначцы. Магчыма, што і капліца каля Храбал нейкім чынам крыху даручана гэтым мучанікам. А магчыма, што тут іншае супадзенне, бо ж у гэты дзень асвячаецца таксама вада, а вось гэтая капліцка ўзведзена на крыніцы з гаючай вадою. Да ўсяго таго ў гэты дзень і пачатак двухтыднёвага посту да Сплення...

Паводле легенды з'явілася каля Храбал цудадзейная ікона Багародзіцы і дзеля гэтага ўладальнік тамашніх зямель рашыў узвесці царкву ў сваім маёнтку ў Сталавачы. Толькі валы, якія цягнулі матэрыял для пабудовы храма, спыніліся ў Райску і далей не пайшлі. Тады і царкву пабудавалі менавіта ў Райску. Пра гэта згадваецца ў кнізе а. Рыгора і м. Антаніны Соснаў. Згадваецца таксама і пра капліцу на крынічцы каля Храбал, але не падаецца, калі яна была там пабудавана. Яна была раскідана ў 1939 годзе, магчыма што саветамі, якія непадалёку зладзілі палявыя казармы. Новая капліца на крыніцы з гаючай вадою была пабудавана ў 1984 годзе.

Капліцу ў Храбалоўскім лесе раскідалі саветы, а мураваную царкву ў Райску, якая ў месцы старой драўлянай была збудавана ў 1875 годзе, раскідалі гітлераўцы ў 1942 годзе, сціраючы з паверхні зямлі вёску Райск як паказны прыклад калектыўнай адказнасці за напад на немцаў. Пасля вайны вёска Райск адрадзілася, а ў 1960-х гадах была там узведзена і царква, прывезеная з вёскі Патурын, што на ўсходніх акраінах Тамашаўскага павета ў Люблінскім ваяводстве. Тамашняе праваслаўнае насельніцтва пасля апошняй вайны або было вымушана выехаць у Савецкі Саюз, або ў рамках акцыі „Вісла" было прымусова вывезена на г.зв. Вернутыя Землі.

Варта, мяркую, пры нагодзе, заглянуць і ў бок Патурына, у мінулае Тамашаўскага павета, хаця яго межы былі тады крыху іншыя чым сёння. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага так згадваў пра павет: „Ponieważ kolonizacya tego obszaru zaczęła się stosunkowo późno, jak zwykle na lesistych wyżynach, przeto śród ludności spotykamy mieszaninę plemienną i wyznaniową, obok jedności językowej z nieznacznemi tu i ówdzie różnicami. Ludność powiatu w 1889 r. wynosi 86806 (42463 męż. 44343 kob.), w tem 4309 niestałych mieszkańców. Śród ludności stałej (z doliczeniem 3007 nieobecnych a zapisanych do ksiąg) było 39000 prawosł., 35870 katol., 14 prot i 10620 żyd". У Тамашаўскім павеце было тады трыццаць праваслаўных прыходаў і дванаццаць каталіцкіх парафій. У выніку бурных падзей міжваеннага, ваеннага і пасляваеннага перыядаў астаўся там з праваслаўных толькі прыход у Тамашаве, які налічвае жменьку прыхаджан. І захавалася тамашаўская царква св. Мікалая, узведзеная ў царскі час паводле тадышніх храмабудаўнічых штампаў. Зараз у ёй праводзіцца грунтоўны рамонт.

Царква ў Райску таксама рамантуецца і лік вернікаў падае; на нядзельнай службе было там каля трыццаці душ. Бо і з Раенскага прыхода таксама высяляецца насельніцтва, хаця дабравольна, у рамках акцыі, якую можна назваць не толькі „Віслай", але і „Эльбай, Рэйнам, Тэмзай"; па-польску гэтыя рэчкі называюцца, адпаведна Łaba, Ren, Tamiza...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Царква ў Тамашаве-Люблінскім



Інтэр'ер рамантаванай царквы ў Тамашаве-Люблінскім



Служба перад капліцаю Іаана Багаслова каля Храбал

ISSN 0546-1960 34